10 лістапада 2017 | № 42 (556)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

На парозе Кіберкастрычніка
Стар. 8

5
**ДА ПЕРАМОГІ НАД ДЗЕДАЎШЧЫНАЙ ПАТРЭБНЫ ЎСЯГО АДЗІН КРОК**

Пасля трагедыі ў Печах паўсюдна гучаць заклікі змагацца з дзедаўшчынай. Але першапрычына праблемы —зусім не дзедаўшчына

6–7
**«МАРУ ПРА АДНАЎЛЕННЕ МЯДЗЕЛЬСКАГА ЗАМКУ»**

Навошта фігуранту «Справы патрыётаў», 26-гадоваму Івану Кавальчуку здаўся той Мядзельскі замак?



10
**МАЎЧАЎ 60 ГАДОЎ ПРА ТОЕ, ЯК ДАПАМАГАЎ ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ**

Вячаслаў Берастоўскі тры разы таемна адвозіў грошы Ларысе Геніюш па просьбе яе родных з-за мяжы. У савецкі час гэта было вельмі небяспечна

11
**ПАД НЕГАЛОСНЫМ АПЯКУНСТВАМ**

Увосень 1973 года КДБ у Беларусі рэалізоўваў задуманую супраць навукоўцаў Акадэміі Навук абвінаваўча-рэпрэсіўную акцыю

# 100 гадоў Кастрычніка
## Чаму Беларусь трымаецца савецкай спадчыны?

**Гульня з савецкімі сэнсамі не такая бяскрыўдная. Яна моцна тармозіць фармаванне беларускай ідэнтычнасці**



Валерый КАРБАЛЕВІЧ

Свет адзначае 100-годзе Кастрычніцкай рэвалюцыі. Але адзначае па-рознаму. На постсавецкай прасторы ўсе дыскусіі пра гістарычнае значэнне гэтай падзеі закончыліся даўно, яшчэ ў пачатку 1990-х гадоў. 70-гадовы камуністычны эксперымент, у які было ўцягнута каля 40% насельніцтва зямнога шара (з улікам Кітая) даў адмоўны вынік. Той шлях, на які ступіла Расія ў 1917 годзе, завёў нас у гістарычны тупік. І ў 1991 годзе былыя рэспублікі СССР фактычна вярнуліся на тую дарогу, па якой ішло ўсё чалавецтва.

І толькі ў нас гэтыя дыскусіі дасюль не закончыліся. Беларусь — адзіная краіна ў свеце, дзе 7 лістапада афіцыйна адзначаецца свята Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Цікава тое, што ў афіцыйным беларускім ідэалагічным канструкце сама ідэя рэвалюцыі ацэньваецца крайне негатыўна. Сам А. Лукашэнка, дзяржаўныя СМІ паўсюль асуджаюць рэвалюцыі. Яны даводзяць, што дзяржаўная ўлада, якая б яна ні была, — рэч сакральная. А рэвалюцыі, майданы — гэта гвалт, хаос. Па БТ увесь час ідуць фільмы, якія паказваюць, да якіх негатыўных наступстваў прывялі рэвалюцыі ў тых краінах, дзе яны адбыліся. А вось да Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая па сваіх сацыяльных наступствах была самай радыкальнай у сусветнай гісторыі, стаўленне абсалютна пазітыўнае.

Беларускі рэжым — самы прасавецкі на прасторы былога СССР. Тут захаваліся не толькі савецкія назвы вуліц, станцый метро, помнікі, але і афіцыйныя дзяржаўныя сімвалы.

У гэта цяжка паверыць, але ў афіцыйнай ідэалогіі акт нараджэння незалежнай Беларусі трактуецца як няшчасце. А. Лукашэнка сцвярджае, што «распад Савецкага Саюза стаў геапалітычнай трагедыяй XX стагоддзя», «катастрофай». На ўрачыстым сходзе, прысвечаным Дню незалежнасці Беларусі ў 1998 годзе, кіраўнік дзяржавы казаў: «Сёння толькі палітычна сляпыя нацыяналісты ды тыя, хто не хоча бачыць і разумець, могуць казаць пра нейкія выгоды, якія набылі народы былога СССР у выніку штучнага развалу вялікай, магутнай і роднай для ўсіх нас дзяржавы» (Звязда, 08.07.1998 г.).

Чым тлумачыцца такі дзіўны феномен? Чаму Беларусь захоўваецца як савецкі запаведнік? Тут ёсць як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя прычыны.

Справа ў тым, што Беларусь у СССР была як бы вітрынай сацыялізму. Індустрыяльная рэвалюцыя ў рэспубліцы адбылася ў 1950–1970-я гады і прывяла да прыкметнага павышэння ўзроўню дабрабыту беларусаў. Гэта быў перыяд масавага перасялення сельскіх жыхароў у гарады, далучэння іх да гарадской культуры, да больш высокіх спажывецкіх стандартаў. Таму гэтыя гады ў жыцці соцыуму ўспрымаліся беларусамі як найлепшыя ў іх жыцці, а зусім не як час таталітарызму і застою.

То бок да пачатку гарбачоўскай Перабудовы грамадства БССР, у адрозненне ад іншых камуністычных краін і рэгіёнаў СССР, не саспела для рэформаў і апынулася «антыперастроечнай Вандэяй». Як большасць




насельніцтва, так і кіруючыя эліты не хацелі краху савецкага ладу і распаду СССР, усяляк супраціўляліся пераменам.

Гэтую сітуацыю вельмі эфектыўна выкарыстаў Аляксандр Лукашэнка падчас прэзідэнцкіх выбараў 1994 года. Ён паабяцаў беларусам вярнуць іх назад у СССР — і атрымаў падтрымку большасці.

Таму фармаванне аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі адбывалася на ідэалагічнай аснове чырвонага рэваншу, ідэі аднаўлення СССР. Савецкая спадчына стала і прапагандысцкім абгрунтаваннем, і прыкладам для фармавання дыктатарскага рэжыму. Пераломнай мяжой у гэтым руху назад стаў майскі рэферэндум 1995 года, які вярнуў злёгку змененую савецкую дзяржаўную сімволіку. «Нам навязваюць, каб мы забыліся ўсё вялікае, што

**Савецкая спадчына стала і грунтам, і прыкладам для фармавання дыктатарскага рэжыму**

зрабілі Ленін і Сталін, але гэта — сімвалы нашага народа», — заявіў беларускі лідар. Ён неаднаразова падкрэсліваў, што для яго ўзорам дзяржаўнага ладу з'яўляецца СССР, з цеплынёй узгадваў пра кіруючую ролю КПСС: «Як бы мы ні вярцелі, ні круцілі, але ў лепшыя свае гады Камуністычная партыя выконвала вельмі сур'ёзныя функцыі ў нашым грамадстве». Паводле яго слоў, пры партыі ўсё было: і стабільнасць, і прадукты, і вера ў заўтра.

Цалкам лагічна, што кіраўнік Беларусі аднавіў найбольш істотныя элементы савецкай сістэмы: адміністрацыйную піраміду, безуладныя Саветы народных дэпутатаў, стаўленне да права, ролю спецслужбаў, адзяржаўленне прафсаюзаў, аналаг камсамола — БРСМ і іншае.

Важным чыннікам настальгіі па савецкаму ладу стаў курс на інтэграцыю з Расіяй, якую кіраўнік Беларусі абвясціў крокам па рэанімацыі Савецкага Саюза. Менавіта на гэтай ідэалагічнай глебе чырвонага рэваншу Лукашэнка марыў і разлічваў захапіць крамлёўскі пасад.

Працяг на стар. 4 »

# Ці варта пазбаўляцца ад савецкіх помнікаў?

Генадзь КЕСНЕР

**Столькі помнікаў савецкай эпохі, як у Беларусі, няма, бадай, нідзе ў свеце. Амаль на кожным кроку можна напароцца на нешта, звязанае з часамі былога Савецкага Саюза. Ад камуністычных сімвалаў і адпаведнай тапанімікі часам шалееш.**

Узяць, да прыкладу, беларускую сталіцу. У цэнтры Мінска — суцэльны «сацыялізм»: вуліцы Леніна, Маркса, Энгельса, Інтэрнацыянальная, Рэвалюцыйная, Савецкая, Свярдлова, Кірава, плошча Мяснікова, а таксама яшчэ ў горадзе ёсць праспект Дзяржынскага, праспект Газеты «Праўда», вуліцы Кнорына, Чапаева, Клары Цэткін, Розы Люксембург, Будзёнава і яшчэ процьма падобных назваў. Тое ж тычыцца і помнікаў. З пастаментаў на людзей пазіраюць Ленін (у некалькіх месцах), Дзяржынскі, Калінін.

Ці варта Беларусі пазбавіцца ад сімвалаў савецкай эпохі? На гэтую тэму «Новы Час» пагутарыў са старшынёй Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры **Антонам Астаповічам.**

***— Чаму ў Беларусі такая вялікая колькасць помнікаў і мемарыялаў усялякім рэвалюцыянерам і падзеям, звязаным з савецкай эпохаю?***

— Калі сказаць шчыра, тое, што ў нас зараз знаходзіцца пад аховай дзяржавы, такіх месцаў у нас мінімальна. Таму ўсё астатняе, калі яно руйнуецца ці яго будуць руйнаваць, — гэта будзе адбывацца ў межах закона. Калі гаварыць пра помнікі Леніну, пры ўсёй іх колькасці, у дзяржаўным спісе і пад аховай дзяржавы ўсяго толькі 6 помнікаў гэтаму дзеячу на ўсю Беларусь. Таму, як гаворыцца, не ўсё так сумна, як здаецца. Рана ці позна ўсё будзе нішчыцца. А я б іх і не нішчыў, яно і само разваліцца. Не трэба паўтараць «подзвіг» бальшавікоў.

І ўвогуле, я лічу, што заклікі ўсё знішчыць мы ўжо праходзілі сто гадоў таму: «…До основания, а затем…». Усё гэта само па сабе прыйдзе ў заняпад, само разваліцца. Але ж хаця б пару такіх месцаў ці помнікаў трэба захаваць, каб застаўся візуальны напамін пра той час, таму што яго нам нельга забываць у прынцыпе. Бо калі мы забудземся на той перыяд, дык рана ці позна гэтыя монстры павылазяць зноўку.

***— У некаторых краінах — да прыкладу, у Літве, — савецкія помнікі звезлі ў адно месца. Ці не паследаваць і Беларусі такому прыкладу?***

— Я не люблю разважаць пра тое, што робіцца, напрыклад, у Літве ці ва Украіне. Мы жывем у Беларусі, у нас свае ўмовы, свая сітуацыя, і фантазаваць, што можна прыдумаць, я не люблю. Я ўвогуле раю фантазёрам: замест таго, каб фантазаваць на тэму, што рабіць з помнікамі савецкай эпохі, хай яны возьмуць венчык і грабелькі і навядуць парадак на нармальным помніку ў якасці валанцёраў. Ад гэтага будзе больш карысці, чым ад размоваў пра дэсаветызацыю. Калі людзі самі пачнуць клапаціцца пра сваю спадчыну, а ў першую чаргу — самыя гучныя крыкуны ў Рэспубліцы Беларусь.

***— Наколькі ў галовах грамадства сёння ўсё яшчэ сядзіць «Вялікі Кастрычнік»?***

— Цяжка сказаць, але мне падаецца, што ментальнасць беларусаў наскрозь прасякнутая сацыялістычнымі ідэямі. Як і сто гадоў таму, калі нават беларускія дзеячы былі «левакамі», так і зараз левыя настроі ў грамадстве вельмі моцныя.

# Грэта Сабалеўская: Распараджэнне аб маім затрыманні даў генерал-маёр Барсукоў

**Яшчэ які год таму пра 22-гадовую дзяўчыну, якая жыве ў Дзяржынску, ведалі толькі сябры ды знаёмыя. Але пасля восеньскіх акцый журналісты ахрысцілі Грэту Сабалеўскую гераіняй нацыянальнага сцяга.**



Звярнулі на дзяўчыну пільную ўвагу і супрацоўнікі праваахоўных органаў: яе затрымлівалі 8 верасня, адразу пасля Дня беларускай вайсковай славы, адвезлі ў пастарунак, перапісалі пашпартныя дадзеныя і адпусцілі. 15 верасня выклікалі ў Цэнтральны РУУС Мінска, куды яна папросту не пайшла. А 27 кастрычніка адбылася сапраўдная дэтэктыўная гісторыя, прычым логіку супрацоўнікаў міліцыі, якія затрымалі яе ў чарговы раз і адвезлі на некалькі дзён да суду ў іншы горад, патлумачыць амаль немагчыма. ПЦ «Вясна» спрабуе зрабіць гэта разам з Грэтай.

У пятніцу, 27 кастрычніка, каля 11 гадзін вечара ў дзверы дома, дзе жыве Грэта, пагрукалі. «Адчыніце, гэта міліцыя», — прагучаў жаночы голас. Дзверы адчыніла маці Грэты, у кватэру зайшлі двое міліцыянтаў — жанчына і мужчына.

«Яны павіталіся і спыталі, ці ведаю я, чаму яны прыйшлі. Я адказала, што чакала іх, але не думала, што яны прыйдуць так позна. Затым я спакойна сабрала свае рэчы, страху ніякага не было. Я спытала, куды мяне павязуць і што ўвогуле будзе адбывацца, на што міліцыянты адказалі, што я затрыманая на трое сутак».

З дома актывістку павезлі ў паліклініку, дзе ёй выдалі даведку аб стане здароўя, і толькі потым, каля гадзіны ночы, у міліцэйскі пастарунак. Там Грэце растлумачылі, што яна затрыманая за парушэнне артыкула 23.34 КаАП і, адпаведна, абвінавачваецца ў парушэнні парадку арганізацыі і правядзення масавага мерапрыемства. На акцыі «Марш абураных беларусаў», якая праходзіла ў Мінску 21 кастрычніка, Грэта трымала банер, што і стала, паводле слоў міліцыянтаў, асноўным парушэннем.

«Я не магу сказаць, што міліцыянты Дзяржынскага РУУС неяк дрэнна да мяне ставіліся. Наадварот, усё было вельмі карэктна. Яны і не хавалі тое, што проста выконваюць загад зверху. Адзін з міліцыянтаў сказаў, што распараджэнне аб маім затрыманні даў генерал-маёр Барсукоў».

Як высветлілася далей, у ізалятары пры Дзяржынскім РУУС не было вольных камер, таму было прынята рашэнне перавезці актывістку ва Узду, у мясцовы ІЧУ, што і зрабілі дзяржынскія міліцыянты ў гэтую ж ноч. Пасля кароткай працэдуры афармлення Грэта вымушаная была некалькі гадзін сядзець у калідоры і чакаць 8 ранку, пакуль не вызвалілася камера.

У Дзяржынску дзяўчыне казалі, што ў гэтым ІЧУ зроблены рамонт, таму ў камеры будуць нармальныя ўмовы. Але ў рэальнасці ўсё апынулася зусім інакш. Прычым негатыўныя ўражанні пакінуў не толькі стан камеры, але і паводзіны персаналу.

«Мяне адвялі ў камеру, памеры якой, па маіх адчуваннях, не перавышалі 3 на 3 метры. Яе стан быў вельмі кепскі. Было занадта цесна, бялізна была ў жудасным стане, не хапала святла, ежу таксама амаль не магчыма было есці. Ад персаналу чагосьці дамагчыся было нерэальна. Ніхто нічога не казаў, штосьці спытаць у іх было немагчыма, на ўсё гучалі адказы: «Гэта не наша справа» ды «Маўчы». Акрамя таго што персанал сам па сабе грубы, дык яны і ставяцца да цябе як да злачынца».

У такіх умовах Грэта Сабалеўская правяла суботу і нядзелю. У панядзелак каля гадзіны дня за ёй прыехалі міліцыянты з Дзяржынскага РУУС і павезлі ў суд.

«Працэс», які праходзіў у невялічкім кабінеце, цягнуўся каля дзесяці хвілін. Паводле слоў Грэты, яна спрабавала спытаць пра магчымасць допуску адваката, аднак ёй адказалі, што справа неістотная, таму ён не патрэбны. Жанчына-суддзя (імя Грэта не запомніла) пагартала справу актывісткі і, нават нічога ў яе не пытаючыся, агучыла суму штрафу — пяць базавых велічынь.

У канцылярыі Грэце выдалі квітанцыю для яго аплаты і адпусцілі, параіўшы «не рабіць болей глупстваў».

Нагадаем, Грэта Сабалеўская — актыўная ўдзельніца акцый пратэсту 8 верасня (супраць вучэнняў «Захад–2017») і 21 кастрычніка («Марш абураных беларусаў»). Яна самастойна вучыць беларускую мову, паколькі доўгі час пражывала з бацькамі за мяжой, займаецца перакладамі з кітайскай мовы.

**spring96.org**

# Выстава пра Курапаты, ушанаванне ахвяраў чырвонага тэрору і талака на габрэйскіх могілках

Марат ГАРАВЫ

**У Грамадскім цэнтры Вілейкі з 3 лістапада экспануецца дакументальна-мастацкая выстава «Праўда пра Курапаты. Факты, дакументы, сведчанні».**

Выстава, падрыхтаваная грамадскай ініцыятывай «Эксперты ў абарону Курапатаў» разам з суполкай «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў пры падтрымцы шматлікіх структур грамадзянскай супольнасці краіны.

Жыхары Вілейшчыны пазнаёміліся з дакументальнай і мастацкай часткамі экспазіцыі, у якую, між іншым, увайшлі творы Уладзімера Анішчанкі, Лявона Грышука, Генадзя Драздова, Аляксея Марачкіна, Генадзя Мацура і Віктара Мікіты.

У адкрыцці выставы прынялі ўдзел дэмакратычныя актывісты Вілейшчыны, прадстаўнікі моладзі і мясцовай інтэлігенцыі, у тым ліку Дзяніс Канецкі, Уладзімер Малярчук, Эдуард Мацюшонак, Павал Хаванскі і Зміцер Хаценчык.

Напярэдадні 100-годдзя Кастрычніцкага перавароту яны разам з гасцямі з Мінску ўшанавалі памяць ахвяраў чырвонага тэрору на Вілейшчыне.

Спачатку ва ўрочышчы Красны Беражок у двух кіламетрах на паўднёвы захад ад Вілейкі былі ўскладзены кветкі і запалены знічкі ля крыжу, усталяванага ў 2009 годзе мясцовымі актывістамі на месцы расстрэлу 28 кастрычніка 1950 года арганізатара і кіраўніка антыкамуністычнага моладзевага падполля на Мядзельшчыне і Смаргоншчыне Расціслава Лапіцкага — ахвярнага 22-гадовага юнака, які адмовіўся ад прапановы прасіць памілаванне.

Затым была ўшанаваная памяць пра больш за 190 мужчын і жанчын, забітых у мясцовым астрозе НКУС у 1939–1941 гадах і перапахаваных на Лясных могілках гораду ў 1995 годзе.

Трэба ўзгадаць, што першымі вязнямі Вілейскага астрогу былі ўдзельнікі нацыянальна-вызвольнага паўстання супраць расійскага самаўладдзя 1863–1864 гадоў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Затым у вязніцы сядзелі матросы з мяцежнага браняносца «Пацёмкін», выбітны дзеяч нацыянальнага Адраджэння Сымон Рак-Міхайлоўскі, заходнебеларускі паэт Валянцін Таўлай і сусветна вядомы навукоўца Барыс Кіт.

А раніцай 23 чэрвеня 1941 года, на другі дзень германа-савецкай вайны, спачатку забіўшы тых арыштантаў, каго нельга было эвакуяваць, ад варот Вілейскай турмы ў дарогу смерці на Барысаў нкусаўцы павялі вялізную калону вязняў. За 12 сутак шляху да Разані калона зменшылася на 142 чалавекі. Сярод тых, чые сляды згубіліся ў эвакуацыі, быў адзін з кіраўнікоў Беларускай Народнай Рэспублікі Антон Луцкевіч і першы рэдактар «Нашай Нівы» Аляксандр Уласаў.

Апроч таго, мы наведалі старадаўнія Вілейскія габрэйскія могілкі, дзе ляжыць не адно пакаленне мясцовых іудзеяў, якія 600 гадоў па-сяброўску жылі разам з беларусамі да таго часу, пакуль выжыўшых у Халакосце ад немінучай дэпартацыі ў сталінскі ГУЛАГ выратавала смерць тырана 5 сакавіка 1953-га...

7 лістапада гарадскія актывісты правялі талаку па ўпарадкаванні мясцовых габрэйскіх могілак.

Напрыканцы хацеў бы выказаць шчырую ўдзячнасць усім тым, хто цёпла прыняў нас і нашу выставу ў Вілейцы, у першую чаргу краязнаўцу і грамадска-палітычнаму дзеячу Аляксею Сюдаку і яго маці — таленавітай паэтцы Надзеі Далёкай.

Вандроўкі выставы па краіне і за яе межамі будуць працягвацца.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

Сяргей САЛАЎЁЎ

# Доктара! Доктара!

**На гэтым тыдні хто адзначаў Дзяды, хто — стагоддзе Кастрычніцкай рэвалюцыі. Але ёсць адзінкі, якім не да святаў, — яны думаюць пра будучыню.**

Напрыканцы мінулага тыдня нам расказалі, як мы будзем жыць далей — у Мінску прайшоў маштабны «Кастрычніцкі эканамічны форум» з удзелам урадаўцаў і прадстаўнікоў міжнародных фінансавых арганізацый. Старшыня праўлення Нацбанка Павел Калаур агучыў прагноз па асноўных паказчыках беларускай эканомікі ў 2018 годзе. Паводле яго слоў, прыярытэтам яго ведамства застаецца коштавая стабільнасць. Інфляцыя ў 2018 годзе прагназуецца на ўзроўні 6% плюс-мінус адзін працэнтны пункт. Стаўка рэфінансавання павінна знізіцца нязначна, да 10%.

Адказваючы на пытанне пра вынікі трох гадоў працы кіраўніком Нацбанка і 25 гадоў супрацоўніцтва з МВФ, Калаур адзначыў, што «самае вялікае дасягненне ў нас, як у медыкаў, — паставіць дыягназ. Правесці дыягностыку, ацаніць глыбіню і прыярытэтнасць праблем — галоўнае. Спачатку трэба вырашаць праблемы больш высокага ўзроўню. Эканамічны блок урада і Нацбанк ведаюць, што рабіць».

Сярод асноўных праблем ён назваў нагрузку на банкаўскі сектар, якую ствараюць стратныя прадпрыемствы дзяржаўнага сектара. «Яшчэ тры гады таму мы пра гэтую праблему не казалі... У аснове мінімізацыі гэтых рызыкаў — велізарная праца па павышэнні эфектыўнасці дзяржпрадпрыемстваў», — цытуе старшыню праўлення Нацбанка TUT.by.

Я, канешне, не эканаміст і не старшыня Нацбанка. Але пра тое, што стратныя дзяржпрадпрыемствы трэба рэфармаваць, пішу значна даўжэй, чым тры гады. Калі Калаур прыйшоў да гэтага толькі зараз, застаецца яго павіншаваць.

Добра, дыягназ паставілі. Што далей? А далей, па-ранейшаму, гучыць старая шарманка: «Мы не вінаватыя, вінаватыя злыя замежнікі. І ўвогуле, у нас усё добра, толькі вы гэта чамусьці не адчуваеце». Напрыклад, Беларусь знізіла свой паказчык у рэйтынгу Сусветнага банка «Doing Business» — гэта штогадовае даследаванне групы Сусветнага банка, якое ацэньвае ў 189 краінах прастату ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці. Каментуючы гэты факт, намеснік міністра эканомікі Дзмітрый Матусевіч сказаў: такое адбылося таму, што іншыя краіны больш актыўна рэфармавалі свае эканомікі.

То бок, злыя замежнікі падступна спрасцілі сваё прадпрымальніцкае заканадаўства — і такім чынам апусцілі Сіняўскую на адну пазіцыю. Але мы таксама не спім у шапку, кажа віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі. У нас падпісана 8 з 10 да-



кументаў па развіцці прадпрымальніцкай дзейнасці, і яшчэ два, у тым ліку па лічбавізацыі эканомікі, будуць падпісаныя вось-вось. І тады мы ў рэйтынгу скокнем!

Ведаеце, што насцярожвае? Насцярожвае тое, што, паводле таго ж Мацюшэўскага, шырокае грамадскае абмеркаванне ўсіх прынятых навацый пройдзе толькі пасля прыняцця ўсяго пакета дакументаў па лібералізацыі эканомікі.

Вось любяць у нас паставіць воз паперадзе каня! Каму патрэбнае тое «шырокае грамадскае абмеркаванне», калі пакет дакументаў будзе ўжо прыняты? Што яно, гэтае абмеркаванне, зменіць?

Ці не здарыцца тое ж, што са славутым дармаедскім дэкрэтам? Яго распрацоўвалі аж з 2014 года. А як увялі ў дзеянне, дык атрымаўся поўны — не будзем тут лаяцца матам — фініш. Яго падпраўлялі, карэктавалі, перапісвалі, прыпынілі дзейнасць — і канчатковага варыянту ўсё роўна пакуль ніхто не бачыў. А калі з «пакетам лібералізацыі» адбудзецца тое самае? Ці не лепей спачатку абмеркаваць з грамадствам, каб зноў не накасячыць, а толькі потым прымаць?

Не, гэта не наш метад, — па вельмі простай прычыне. Уяўляеце, колькі чыноўнікаў было задзейнічана ў працэсе неаднаразовай карэктоўкі таго ж дармаедскага дэкрэту — ад мясцовых да самых высокіх урадавых? І кожны за сваю «працу» атрымліваў заробак — і неблагі заробак! А калі дакументы пасля грамадскага абмеркавання будуць прынятыя ў належным выглядзе — гэта ж больш не атрымаецца імітаваць дзейнасць па выяўленні недахопаў! Працы не будзе — не будзе і заробку.

З «лібералізацыйнымі дакументамі» адбудзецца тое ж самае. Больш за тое, іх карэктоўку ўжо закладзеная ў працу парламентарыяў, міністраў, і гэтак далей. Не верыце?

На 17 лістапада ў Палаце прадстаўнікоў запланаванае «нулявое чытанне» бюджэту Беларусі на 2018 год. Яно пройдзе пры ўдзеле прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова і членаў урада. Раней праект пакета бюджэтных дакументаў быў накіраваны дэпутатам для вывучэння.

Старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па бюджэце і фінансах Людміла Дабрыніна ў размове з карэспандэнтам БелТА пацвердзіла, што глабальных змен у падатковым заканадаўстве не прадугледжана.

Першы намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч сказаў, што бюджэт на будучы год сфарміраваны з прафіцытам у Br500 мільёнаў. «Што тычыцца параметраў бюджэту — мы канцэпцыю яго фармавання не змянілі, дзейнічаем дакладна па такім жа сцэнары, як і пры яго фармаванні на гэты год. Мы адштурхоўваліся ад кансерватыўнага сцэнару, дзе тэмпы росту ВУП закладзены на ўзроўні 101,2% і ўсе паказчыкі выглядаюць больш песімістычна, чым у мэтавым прагнозе», — адзначаў ён.

Ермаловіч таксама ўдакладніў, што падатковая нагрузка захоўваецца на ўзроўні 25% ВУП, а па расходнай частцы ў структуры бюджэту ў цэлым сур'ёзных змен не прагназуецца.

Разумееце? Мы прымаем дзесяць (!) «звышлібералізацыйных» дакументаў, якія ледзь не рэвалюцыйна (па словах нашых чыноўнікаў) змяняюць умовы вядзення бізнесу, падатковы цяжар, выдаём ільготы таму ж ПВТ, развіваем лічбавую эканоміку... І ўсё гэта ніяк — ніяк!!! — не адлюстравана ў галоўным фінансавым дакументце краіны на наступны год! Пытаннечка: хто-небудзь яшчэ верыць у тое, што нашая «лібералізацыя» запрацуе?

Добра, канешне, што Калаур і Мацюшэўскі паставілі эканоміцы Беларусі дыягназ. Але, пры ўсёй павазе да абодвух банкіраў (Мацюшэўскі на пасаду віцэ-прэм'ера прыйшоў з БПС-Сбербанка), яны — не дактары. А беларускай эканоміцы патрэбны ўжо нават не тэрапеўт, а хірург. Можа быць, эканамічны блок урада і Нацбанка ведае, што рабіць, але таго самага хірурга, які здолеў бы ўсё зрабіць у адпаведнасці з дыягназам, няма. І не прадбачыцца.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### Аляксандр Малчанаў

**Былы палітвязень узнагароджаны ўкраінскім медалём «За відвагу» («За адвагу»). Медалём ён быў уганараваны за ўдзел у баях у зоне антытэрарыстычнай аперацыі ва Украіне на Аўдзееўскім кірунку.**

Медаль «За відвагу» — недзяржаўная ўсеўкраінская ўзнагарода з асаблівым статусам, заснаваная з мэтай станаўлення павагі грамадства да герояў АТА, якія ў складаных умовах службы даказалі сваю вернасць абавязку і народу Украіны. Медалём узнагароджваюцца байцы і валанцёры за асабістую мужнасць і адвагу, праяўленыя ў гарачых кропках АТА.

Нагадаем, што Малчанаў браў удзел у акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года. Быў затрыманы 6 студзеня 2011 года ў сябе дома ў Барысаве. Абвінавачаны ва ўдзеле ў масавых беспарадках і ў абразе афіцыйнага сцяга. 2 сакавіка 2011 года суддзя Фрунзенскага суда Мінска Таццяна Чаркас асудзіла Малчанава на тры гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Адбываў пакаранне ў калоніі № 15 Магілёва. Быў памілаваны Лукашэнкам, хаця прашэння аб памілаванні не пісаў.

Пасля таго, як Малчанаў быў вызвалены, ён не мог нікуды ўладкавацца на працу. Адзіным спосабам яго заробку быў збор металалому. 9 красавіка 2012 года Малчанаў зноў быў асуджаны да 1,5 года калоніі: нібыта ён выкраў металалом з тэрыторыі жодзінскага кавальскага завода цяжкіх штамповак. Малчанаў сваёй віны не прызнаў: ён не разбіраў абсталяванне, а толькі збіраў іржавыя металічныя прадметы на тэрыторыі цэха, які шмат гадоў не працуе.

Адбыўшы зняволенне, Малчанаў пераехаў ва Украіну, дзе ўступіў у шэрагі Узброеных Сіл гэтай краіны.

### Таццяна Нядбай



**Паэтка і менеджарка была абраная старшынёй Беларускага ПЭН-Цэнтра. З'езд гэтай арганізацыі адбыўся 5 лістапада ў Мінску.**

На пасадзе яна змяніла паэта і перакладчыка Андрэя Хадановіча. Першым намеснікам кіраўніка арганізацыі застаўся Павел Анціпаў. Другім і трэцім намеснікамі старшыні абраныя паэт і спявак Уладзь Лянкевіч і літаратарка і перакладчыца Алена Казлова.

Сябрамі ПЭН-Цэнтру з'яўляюцца каля 100 аўтараў. Ён уваходзіць у сусветную сетку «Міжнародны ПЭН-клуб». Сярод іншага, нацыянальныя ПЭН-цэнтры маюць права вылучаць кандыдатаў на Нобелеўскую прэмію.

ПЭН-клуб — міжнародная праваабарончая няўрадавая арганізацыя, мэтай якой з'яўляецца садзейнічанне творчаму супрацоўніцтву пісьменнікаў усяго свету і іх аб'яднанню для падтрымкі «людзей слова», што церпяць ганенні і пераслед. ПЭН-клуб рашуча выступае за свабоду прэсы і супраць адвольнага прымянення цэнзуры ў мірны час.

Сярод заснавальнікаў Беларускага ПЭНа, які ўтварыўся ў 1989 годзе, былі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін і Карлас Шэрман.



### Андрэй Арамнаў

**Алімпійскі чэмпіён 2008 года па цяжкай атлетыцы, які раней казаў, што ён больш папулярны за кіраўніка дзяржавы, не можа балатавацца на гэту пасаду.**

Арамнаў прызнаўся ў эфіры ток-шоу «Кожны з нас» на тэлеканале «Белсат», што знаходзіцца на «хатняй хіміі». Да двух гадоў абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову ён быў асуджаны за чарговае п'янае кіраванне аўтамабілем.

«У апошні раз мяне злавіла ДАІ з невялікім перавышэннем алкаголю ў крыві. Яны забралі ў мяне машыну, я трапіў пад канфіскат. Далі вялікі штраф і два гады хатняга арышту. За гэты час я вельмі добра ўсвядоміў, што не меў рацыі», — кажа Арамнаў.

Раней яго ўжо некалькі разоў лавілі на п'яным кіраванні. Цяпер штангіст абавязаны знаходзіцца дома кожны дзень не пазней 20.00. Пакідаць межы Барысава яму таксама забаронена.

«Мой асноўны заробак — вяду блог у інтэрнэце і здаю кватэру. Тыя сродкі, якія я атрымліваю за трэніроўкі дзяцей... Гэта, я лічу, дабрачыннасць», — сказаў Арамнаў.

# Дзедаўшчына ў нашых сэрцах

Мікалай ДЗЯДОК

**Сярод прычын жахлівага здарэння ў Печах называюць розныя: невыкананне статуту, разбэшчанасць камандзіраў, савецкія армейскія традыцыі, невялікія заробкі вайскоўцаў... Але, на мой погляд, самая істотная прычына не гучыць.**




Выпадак у Печах абурыў усю Беларусь. Праблема дзедаўшчыны, зрэшты, выпаўзла — дакладней, яна была прымусова выцягнутая вонкі незалежнымі журналістамі і праваабаронцамі. Афіцыйныя асобы — ажно да кіраўніка краіны — мусілі рэагаваць. У байнэце загучалі самыя розныя меркаванні аб тым, у чым прычына дзедаўшчыны і гвалту ў арміі. Часцей за ўсё называліся мізэрныя заробкі афіцэраў, нізкі прэстыж вайсковай службы, і, канешне, усюдыісная савецкая спадчына.

Але ўсё вышэй пералічанае, гэтаксама, як і сама дзедаўшчына, — толькі наступствы, а ніяк не прычыны.

Найперш шчырае здзіўленне ў мяне выклікае абурэнне з нагоды таго, што «ў арміі чыніцца гвалт». А што такое армія? Хіба не апарат інстытуцыяналізаванага гвалту? Хіба не для гвалту (яго найбольш выразнай формы — забойства) армія была створаная? Ад прымусовай дысцыпліны і іерархіі (якая апрыёры ёсць гвалтам над свабоднай воляй асобы) да ўрокаў рукапашнага бою, ад штык-нажоў да аўтаматаў, кулямётаў, танкаў і ракет — армія пабудаваная на ідэалізацыі і няспыннай практыцы гвалту. Без гвалту войска няма, яно на ім пабудаванае і з яго складаецца.

У ідэале, канешне, гвалт гэты мусіць быць скіраваны на абарончыя мэты, супраць ворагаў дзяржавы, для таго, каб адстаяць суверэнітэт краіны. Але ж ва ўстанове, якая прасякнутая гвалтоўнымі сімваламі і ідэямі зверху да нізу, гэты джын непазбежна будзе вырывацца з бутэлькі і праяўляцца не толькі там, дзе, згодна з жаданнямі генералаў, ён мусіць быць. Таму нічога дзіўнага, што ў інстытуцыі, дзе падаўленне чалавека чалавекам (ва ўсіх формах) узведзенае ў прынцып і норму, яно абарачваецца не супраць нейкага гіпатэтычнага знешняга ворага, а супраць любога бліжняга, які не можа пастаяць за сябе.

Па-другое, чамусьці ўсе забываюцца, што войска (хоць і з'яўляецца закрытай структурай, аднак жа яно не ізаляванае, не прыляцела да нас з Месяца) — такая ж частка грамадства, як нашы школы, дзіцячыя сады, заводы і турмы. І ўсе сацыяльныя адносіны ў арміі фарміруюцца тымі людзьмі, што побач з намі. Прасцей кажучы, якія мы, беларусы, — такое і войска. «Дзяды», якія збіваюць духаў, гвалтуюць іх і вымагаюць грошы, афіцэры, якія заплюшчваюць на гэта вочы, а то і самі ўдзельнічаюць у здзеках, духі, якія трываюць год, а потым самі робяцца дзядамі і «адрываюцца» ўжо на навічках — усе яны выгадаваныя на каштоўнасцях, маралі і прынцыпах нашага грамадства. Грамадства, у якім падпарадкаванне — норма, а бунт — выключэнне, канфармізм — норма, а прынцыповасць — выключэнне, баязлівае «мая хата з краю» — норма, а смеласць — выключэнне.

Таму змяніць войска як інстытуцыю немагчыма, не змяніўшы ўсё грамадства, яго маральныя ўстаноўкі і схемы функцыянавання. Калі ва ўчорашніх падлеткаў, якія прыходзяць у армію, у галовах дамінуюць турэмныя каштоўнасці, шчыльна перамяшаныя з культам «бабла», калі іерархія ва ўсіх сферах жыцця застаецца стрыжнем грамадства і яго адзінай парадыгмай — не варта чакаць, што ў арміі будзе інакш. Пакуль будзе так — усе гучныя начальніцкія загады, «жэстачайшыя» нарады ў міністраў і Статуты вайсковай службы будуць заставацца фармальнасцю, пад ілжывай вокладкай якой будзе працягвацца ўсё тое, што было і раней.

Аднак, безумоўна, у сілу сваёй спецыфікі любая ўзброеная група людзей мае патрэбу ў дысцыпліне і іерархіі, а тым больш армія. Логіка ўзброенага канфлікту дыктуе свае правілы: вертыкальнае прыняцце рашэнняў (бо яно больш хуткае), безумоўнае падпарадкаванне (бо праз яго дасягаецца зладжанасць дзеянняў) і ім падобныя. Аднак практыка будавання ўзброеных сілаў у іншых краінах паказвае, што нават у іх да пэўнай ступені прымянімыя прынцыпы дэмакратызму, роўнасці і павагі да асобы. Адны з самых эфектыўных армій свету, Швейцарыі і Ізраіля, пабудаваныя паводле міліцэйскага тыпу.

У першай апрыёры лічыцца, што грамадзянін атаясамлівае сябе з краінай, і таму будзе яе зацятым абаронцам. Кожны швейцарац, які адслужыў у войску, атрымлівае зброю ды трымае яе дома. А таксама перыядычна праходзіць вайсковыя зборы, у якіх удзельнічаюць разам будаўнік і дырэктар фірмы, настаўнік і бізнесмен, афіцыянт і топ-менеджар.

Аналагічна ў арміі Ізраіля, якая вырасла з партызанскіх атрадаў, што змагаліся супраць англійскага каланіяльнага ладу. Апрача таго, што вайсковая служба ў краіне з'яўляецца абавязкам, ад якога не прынята ўнікаць, гэта армія, якая няспынна ваюе. Армія, у якой афіцэры і салдаты звяртаюцца адзін да аднаго наўпрост, без усялякага «разрешите обратиться», спрачаюцца між сабой, разам жывуць і разам ядуць. У вайсковых зборах на аднолькавых умовах — без усялякіх прывілеяў — удзельнічаюць людзі ўсіх сацыяльных слаёў і ўзроўняў дастатку.

У вышэй прыведзеных прыкладаў ёсць прынцыповыя агульныя рысы: яны пабудаваны на дэцэнтралізацыі (максімальнай аўтаномнасці воінскіх падраздзяленняў) і рэгулярным доступе насельніцтва да зброі. Само сабой, што абодва гэтыя прынцыпы — страшны сон для беларускіх уладаў. Уявіць, што падначалены можа спрачацца з начальнікам, а дзяржапарат больш не мае манаполіі на зброю — такое ў прынцыпе немагчыма для менталітэту тых, хто намі кіруе. Зрэшты, як і для нашага. Бо швейцарская армія развівалася ў межах індывідуалістычнай пратэстанцкай культуры, якая заўсёды заахвочвала прыватную ініцыятыву і самастойнасць у супрацьвагу патэрналізму і цэнтралізацыі. Ізраільская — пад моцным уплывам сацыялістаў і анархістаў, якія прыязджалі з Еўропы ў пачатку XX стагоддзя, каб рэалізоўваць на Святой зямлі свае сацыяльныя эксперыменты.

Ці трэба казаць, што ў абодвух выпадках ні пра якую дзедаўшчыну не можа ісці і гаворкі?

Не хацелася б ідэалізаваць ніякую ўзброеную структуру, бо, як я ўжо пісаў вышэй, нічога добрага ў гвалце над чалавекам няма. Але, лічу, будзе добра, калі замест простых адказаў на пытанне пра тое, чаму ў закрытых установах нашай краіны адбываецца пекла, мы будзем глядзець углыб і разумець, што для вырашэння сістэмных праблем грамадства (а дзедаўшчына менавіта такой і з'яўляецца) змяняцца мусяць не толькі законы і ўзроўні заробкаў, але і ўся сацыяльна-палітычная рэчаіснасць, у якой мы жывём.

# 100 гадоў Кастрычніка

**« Працяг. Пачатак на стар. 1.**

Таму ён увесь час паўтараў, што распад СССР — гэта трагедыя, якую неабходна пераадолець.

Пасля падпісання дакумента аб стварэнні Супольнасці Беларусі і Расіі 2 красавіка 1996 года беларускі кіраўнік заявіў, што дамова «выпраўляе памылку, зробленую ў 1991 годзе».

Выступаючы перад ветэранамі з нагоды Дня Перамогі, Лукашэнка казаў: «Мы вярнулі вам дзяржаўны сцяг краіны, за якую вы ваявалі... Прабачце нам, што мы пакуль не змаглі вярнуць вам вашу і нашу агульную Айчыну ў шырокім і глыбокім сэнсе гэтага слова. Але я перакананы, што гэта нам пад сілу. Мы гэта зробім».

А самым галоўным перыядам беларускай гісторыі абвешчаная Вялікая Айчынная вайна. Перамога ў гэтай вайне з'яўляецца ледзь ці не адзінай гістарычнай падзеяй, якую можна разглядаць у нейкай меры як поспех савецкага грамадскага ладу. Таму ў Беларусі так урачыста святкуецца Дзень Перамогі.

Зразумела, што такая апеляцыя да мінулага немагчымая без ідэалізацыі савецкай гісторыі. Паколькі тэма сталінскіх рэпрэсій разбурае створаныя ў камуністычны час міфы, то ўзяты курс на яе замоўчванне. Беларусь з'яўляецца адзінай постсавецкай краінай, у якой афіцыйна сталінскі тэрор практычна не прызнаецца.

У іншых дзяржавах, што ўзніклі пасля распаду СССР, створаныя адпаведныя мемарыялы, адзначаюцца Дні памяці ахвяр палітычных рэпрэсій. Нават у Пуцінскай Расіі, дзе ўжо пачалі будаваць помнікі Сталіну, Дзень памяці ахвяр палітычных рэпрэсій афіцыйна адзначаецца 30 кастрычніка. Расійскі прэзідэнт прыняў удзел у цырымоніі адкрыцця мемарыялу «Сцяна смутку» ў Маскве.

У Беларусі няма ніводнага афіцыйнага помніка ахвярам савецкіх масавых рэпрэсій 20–50-х гадоў мінулага стагоддзя. Затое ёсць помнікі супрацоўнікам НКУС.

Пры Лукашэнку быў цалкам зачынены архіў КДБ, усе справы аб жахлівай трагедыі 30–50-х гадоў зноў засакрэчаныя. У школьных падручніках сталінскія рэпрэсіі былі прадстаўлены як неабходная мера абароны савецкай улады ў той гістарычны перыяд. Затое школьнікаў возяць на аўтобусах на «Лінію Сталіна». Не толькі не хаваецца, а настойліва выпінаецца гістарычная пераемнасць цяперашніх беларускіх органаў дзяржбяспекі з іх злавеснымі папярэднікамі. Міністр МУС Ігар Шуневіч на свята апранае форму камісара НКУС.

Беларускія ўлады так да гэтага часу цалкам не прызналі Курапаты ў якасці мемарыяла ахвярам сталінскага тэрору. Яго наведваюць дэлегацыі розных краін, якія прыязджаюць у Беларусь, замежныя дыпламаты. А кіраўнік Беларусі ні разу там не пабываў. Вельмі знамянальным і адначасова парадаксальным з'яўляецца той факт, што адзіны мемарыяльны знак тут усталяваў прэзідэнт ЗША Біл Клінтан.

Улады нібыта пагадзіліся прызнаць Курапаты мемарыялам ахвяр палітычных рэпрэсій, усталяваць там нейкі помнік ці памятны знак. Але тут адначасова адбываецца падмена ідэйнага, сімвалічнага зместу мемарыяла. Лукашэнка, разважаючы на гэтую тэму, казаў: «Яны лічаць, што Сталін там расстрэльваў, іншыя кажуць, што і фашысты там людзей расстрэльвалі... Я мяркую, якая розніца, хто там каго расстрэльваў...»

Міністэрства культуры ў загадзе № 69 ад 24 сакавіка 2017 года, якім зацверджана палажэнне аб конкурсе эскізных праектаў памятнага знака «Курапаты», канстатавала, што ён павінен увекавечыць памяць «усіх бязвінных ахвяр XX стагоддзя ў гісторыі Беларусі». Інакш кажучы, ідэя ўладаў палягае ў тым, каб размыць, растварыць злачынствы сталінізму, схаваць іх у агульным шэрагу ўсіх нявінных ахвяр XX стагоддзя. І, дарэчы, аб самім конкурсе нешта забыліся, пра яго нічога не чуваць.

Але час ідзе — чым далей, тым больш настальгія па СССР у масавай свядомасці знікае. Апеляцыя да савецкай спадчыны ўжо не дае Лукашэнку палітычных дывідэндаў. У выніку шмат гадоў улады фактычна ніяк не святкавалі дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі на дзяржаўным узроўні. Савецкія сімвалы захоўваюцца хутчэй па інерцыі.

Але гульня з савецкімі сэнсамі не такая бяскрыўдная. Бо яна моцна тармозіць фармаванне беларускай ідэнтычнасці. Беларускасць усё яшчэ раствараецца ў савецкасці, не можа адтуль вылучыцца, аддзяліцца. Не выпадкова на Украіне дэкамунізацыя, разрыў з савецкім мінулым, разбурэнне помнікаў Леніну сталі пабочным вынікам працэсу ўкраінізацыі, дыстанцыявання ад імперскай спадчыны. І чым хутчэй нешта падобнае адбудзецца ў Беларусі, тым лепш.

Аляксей ХАРКЕВІЧ

**Трагедыя ў Печах мала каго ў Беларусі пакінула абыякавым. Паўсюдна гучаць заклікі змагацца з дзедаўшчынай. І ў гэтым шматгалоссі губляецца першапрычына праблемы, якой з'яўляецца зусім не дзедаўшчына.**



# Да перамогі над дзедаўшчынай патрэбны ўсяго адзін крок

**Пакуль не будуць прыняты карэнныя змены ў Статуце ўнутранай службы, якія пашыраюць правы ваеннаслужачых, здзекі з салдат як з боку сяржантаў, так і з боку афіцэраў будуць непазбежныя**

Мне давялося служыць тэрміновую службу ў шэрагах Узброеных Сілаў Рэспублікі Беларусь у самым пачатку XXI стагоддзя. Да арміі я, як і многія, быў абсалютна ўпэўнены ў тым, што, калі з дзедаўшчынай па-сапраўднаму змагацца, дык яе можна перамагчы. Да канца службы я ў гэтым зняверыўся. Чаму ж так адбылося?

Служба ў арміі — велізарны стрэс для маладога чалавека. Да якіх наступстваў гэта можа прывесці, я наглядна ўбачыў на прыкладзе сваіх таварышаў па службе. У кагосьці выявіўся псарыяз, у кагосьці энурэз. Былі і такія, хто паспрабаваў звесці рахункі з жыццём. На шчасце, ні разу гэта не скончылася трагічна.

Спробы суіцыду былі наўпрост звязаныя з абставінамі, якія адбыліся непасрэдна падчас службы. Пры жаданні, іх цалкам можна спісаць на дзедаўшчыну, або, як прынята казаць у войску, на нестатутныя ўзаемаадносіны. Аднак пры бліжэйшым разглядзе ўсё здаецца не такім адназначным.

### «Мама, прабач!»

Першы выпадак суіцыду, непасрэдным сведкам якога я стаў, адбыўся з салдатам, які праслужыў ужо больш за паўгода. Пасля праведзеных некалькіх тыдняў у адпачынку, ён раптам вырашыў не вяртацца ў сваю вайсковую частку. Ваеннае кіраўніцтва, натуральна, расцаніла гэта як дэзерцірства.

Па агульнапрынятай у арміі традыцыі, за правіннасць салдата была пакараная ўся вайсковая частка. У выніку ўсе салдаты тэрміновай службы надоўга пазбавіліся магчымасці хадзіць у звальненні.

Непасрэдна перад судом салдата вярнулі ў сваю частку, дзе сатысфакцыі прагнулі дзясяткі яго таварышаў па службе. Невядома, чым бы для яго скончылася гэтая ноч перад судом, але незадоўга да адбою ён быў знойдзены ў прыбіральні з перарэзаным запясцем у лужыне крыві і з надпісам на сцяне: «Мама, прабач».

У выніку судова-медыцынская экспертыза выявіла ў салдата псіхічнае захворванне, пасля якога ён быў камісаваны.

### Вечны днявальны

У другім выпадку спроба суіцыду была здзейсненая за пару месяцаў да звальнення ў запас. І тут прычынай паслужылі ўзаемаадносіны з вайскоўцамі ў калектыве.

Яшчэ ў першыя месяцы службы салдат быў абвінавачаны ў крадзяжы. З гэтай нагоды не было афіцыйнага разбору, аднак яго далейшая служба ў вайсковай часткі ператварылася ў суцэльны жах. Ён не толькі атрымаў статус адшчапенца сярод таварышаў па службе, але і прымаў на сябе ўсю самую брудную працу з боку афіцэраў.

Чым большая на яго клалася нагрузка, тым больш да яго прад'яўлялася прэтэнзій. У выніку дайшло да таго, што ён атрымаў сем нарадаў днявальнага па-за чаргой. Фактычна гэта азначала, што ён на працягу тыдня павінен быў праводзіць на нагах больш за 20 гадзін на суткі.

На шостыя суткі сяржант, які выконваў абавязкі дзяжурнага па роце, выявіў днявальнага, які зацягваў пятлю на сваёй шыі. Улічваючы фізічны і псіхічны стан салдата ў той момант, ніхто не адважыўся аспрэчыць сур'ёзнасць яго намераў.

Такім чынам, абедзве спробы суіцыду былі ўчынены з-за агульнай абстаноўкі ў калектыве. Аднак гэта былі зусім не здзекі старослужачых з навабранцаў, што звычайна разумеецца пад дзедаўшчынай. Віной была строгасць воінскага статута, якую адчулі на сабе салдаты. У чым гэта праяўляецца, лепш за ўсё дэманструе прыклад яшчэ аднаго майго калегі.

### Стойкі алавяны салдацік

Навабранец, што трапляе ў баявую частку, мае права выбару: альбо ён будзе жыць строга па воінскім статуце ўвесь тэрмін службы, альбо будзе падпарадкоўвацца правілам, прынятым у калектыве, у тым ліку выконваць нестатутныя даручэнні старaслужачых. Рэдка хто выбірае службу строга па воінскім статуце. За год, праведзены ў войску, я бачыў толькі аднаго такога чалавека, які служыў для ўсіх наглядным прыкладам таго, да чаго прыводзіць «жыццё па статуце».

Напэўна, нескладана прыжыць па статуце цэлы месяц ці нават два. Гэты салдат, які скончыў да арміі ўніверсітэт, пражыў, строга выконваючы воінскі статут, цэлы год. Да канца службы ён змарнеў і забыўся, што такое ўсмешка.

І салдаты, і афіцэры з гэтай нагоды жартавалі: «Калі ўсе звальняюцца ў запас, то наш «устаўнік» ідзе на «дэмбель». Гэтую фразу можна інтэрпрэтаваць так: год, праведзены гэтым салдатам тэрміновай службы ў войску, раўнасільны ўдзелу ў рэальнай вайне.

**«Нас могут здесь назвать собакой, стереть достоинство и честь, а мы в душе пошлем всех в ад, но как всегда ответим: «Есть!»**

Пасля трох розных салдацкіх гісторый прыйшоў час разабрацца, што ж утрымлівае Статут унутранай службы Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Што ж дзесяцігоддзямі выклікае ў салдат жаданне падпарадкоўвацца не статуту, а нефармальным правілам ці "дзеду"?

Вайсковы статут мала каму цікавы, акрамя саміх вайскоўцаў. Між тым, верагодна, гэта адзіны беларускі нарматыўна-прававы дакумент, што афіцыйна замацоўвае амаль поўную адсутнасць правоў у грамадзян, якія не ўчынілі да гэтага ніякіх правін у дачыненні да грамадства.

Ні для каго не сакрэт, што цяперашні беларускі вайсковы статут з'яўляецца правапераемнікам савецкага. У часы СССР служба ў шэрагах Узброеных Сілаў разглядалася як важнае звяно выхавання «савецкага чалавека». Таму ў аснову ставілася поўнае знішчэнне індывідуальнасці. Нягледзячы на ўсю разнастайнасць сучасных моладзевых субкультур, у беларускім войску гэта працягвае адбывацца і сёння, што мае для псіхікі моладзі значна больш сур'ёзныя наступствы.

Нядзіўна, што львіная доля часу службы адводзіцца на тое, што не мае непасрэднага дачынення да баявой падрыхтоўкі: уборка тэрыторыі, праверка знешняга выгляду, страявая падрыхтоўка. Усё гэта прымушае салдата адчуць сябе «нікім».

Яшчэ адзін прынцып, які пераандраваў з савецкай арміі, — жыццё салдата нічога не вартае. Сёння ніхто не кажа адкрыта: «Салдат не шкадаваць! Нашы бабы яшчэ народзяць». Але ў той жа час сярод абавязкаў вайскоўца, замацаваных Статутам унутранай службы Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, ёсць такія:

- безумоўна падпарадкоўвацца камандзірам (начальнікам) і абараняць іх у баі, аберагаць Баявы Сцяг воінскай часці;
- даражыць вайсковым таварыствам, не шкадуючы свайго жыцця выручаць таварышаў з небяспекі.

Ёсць адзін аспект, у якім цяперашні Статут унутранай службы Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь пераўзыходзіць нават Статут унутранай службы Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі 1937 года. Гаворка пра безумоўнае і бясспрэчнае падпарадкаванне.

Калі ў сталінскім Статуце было пазначана: «Ваеннаслужачы абавязаны бясспрэчна выконваць загады начальнікаў, акрамя відавочна злачынных. Атрымаўшы відавочна злачынны загад, падначалены, не выконваючы яго, абавязаны неадкладна далажыць пра гэта вышэйшаму камандзіру і ваеннаму камісару. Начальнік, які аддаў злачынную загад, і падначалены, які яго выконвае, падлягаюць адказнасці па законе».

Дык у сучасным беларускім статуце напісана наступнае: «Абмеркаванне загаду недапушчальнае, а непадпарадкаванне або невыкананне загаду з'яўляецца воінскім злачынствам... Падпарадкаваны абавязаны бясспрэчна выконваць загады начальніка. Выканаўшы загад, ён можа падаць скаргу, калі лічыць, што ў адносінах да яго паступілі няправільна».

Гэта значыць, калі ў 1937-м салдату давалася права не выконваць злачынныя загады, то ў сучаснай беларускай арміі невыкананне любога загаду з'яўляецца злачынствам.

### Эксперымент

Для таго, каб зразумець механізм, які запускае дзедаўшчыну ў беларускім войску, дастаткова азнаёміцца з вынікамі знакамітага Стэнфардскага эксперыменту, праведзенага па замове Ваенна-марскога флоту ЗША, для тлумачэння сутнасці канфліктаў, якія здараюцца сярод марскіх пяхотнікаў. Падзеі, якія адбыліся ў выніку гэтага, і леглі ў аснову двух вядомых фільмаў пад назвай «Эксперымент».

Стэнфардскі эксперымент паказаў, што адсутнасць правоў у падпарадкаваных правакуе праявы садысцкіх схільнасцяў прыкладна ў траціны начальнікаў. У пераламленні на беларускае войска гэта кажа пра тое, што пакуль не будуць прыняты карэнныя змены ў Статуце ўнутранай службы, якія пашыраюць правы ваеннаслужачых, здзекі з салдат як з боку сяржантаў, так і з боку афіцэраў будуць непазбежныя. Любое ўзмацненне жорсткасці рэжыму без пашырэння правоў ваеннаслужачых прывядзе толькі да пагаршэння іх становішча.

Большасць армій свету ўжо зразумелі гэта. Для таго, каб асвоіць вайсковую справу, не абавязкова начаваць у казарме 7 дзён на тыдзень паўтара гады. Сучасныя ваенныя тэхналогіі такія, што выключаюць прамыя супрацьстаянні шматтысячных войскаў салдат. Ваенны вынік зараз залежыць ад эфектыўнасці выкарыстання кожнай баявой адзінкі. А гэта значыць, што Беларусь са сваім дарэвалюцыйным статутам і дзедаўшчынай безнадзейна адстала. Зменіцца статут — знікне і дзедаўшчына.

# Іван Кавальчук: «Мару пра аднаўленне Мядзельскага замку»

**Малюнкі замка ў Мядзелі, зробленыя фігурантам «Справы патрыётаў», 26-гадовым Іванам Кавальчуком у СІЗА, сёлета надрукавалі ці не ўсе незалежныя СМІ. Пра што марыць, чаго плануе дасягнуць і навошта маладому хлопцу здаўся той Мядзельскі замак?**




Сёння Іван працуе па спецыяльнасці — архітэктарам у Мінску. Афармленне крамаў, дызайн інтэр'ераў — усё гэта ўваходзіць у ягоныя абавязкі. Цікавасць да гісторыі роднага краю і маляванне не засталіся адно забаўкай вольнага часу, але ўпляліся ў сур'ёзную жыццёвую задачу: жывучы ў сталіцы, паспрыяць, наколькі магчыма, аднаўленню неіснуючага сёння замку ў Мядзелі, які можа стаць «беларускімі Трокамі».

### «Пах дзяцінства — гэта пах фарбы»

*— Адкуль у цябе цікавасць да жывапісу?*

— У дзяцінстве я вельмі багата маляваў на ўроках. Настаўнікі ніколі не рабілі за гэта заўвагаў, хоць і бачылі, што, седзячы за партай, я вітаў недзе ў сваіх аблоках, размалёўваючы сшыткі ды аркушы. Вялікі ўплыў зрабіў бацька: з дзяцінства знаёміў з жывапісам, малюнкам. Пах дзяцінства для мяне — гэта пах фарбы ды лаку. Калі ён нешта змайструе, намалюе і прынясе дахаты, яно пахне. Мяне гэта натхняла.

*— А кім працаваў бацька?*

— Выкладчыкам малявання і гісторыі мастацтва ў школе ў Мядзелі. Зараз яшчэ і працоўнае навучанне хлопцам выкладае.

*— То бок, ён і прывіў цікавасць?*

— Атрымліваецца, так. Мяне натхняла, калі ў школе заходзіў да яго ў кабінет. Памяшканне называлася лабаранцкай, а я называў майстэрняй — так прыгажэй. Там было ўсё: ляпніна, барэльефы, гіпсавыя галовы, гліна, пластылін, малюнкі — безліч усяго! Ён збіраў і расстаўляў па паліцах як свае працы, так і працы вучняў — каб усе бачылі.

### «Калі на стале пуста — карысці народу не прынясеш»

*— А што наконт архітэктуры?*

— У 2008 годзе я паступіў у Каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка ў Мінску, думаў, што стану жывапісцам. Зараз таксама займаюся жывапісам, але гэта ўжо паралельна. Была такая гісторыя: некалі на другім курсе прывезлі мне з Расіі зборную папяровую мадэль царквы — макет, загадзя размаляваны. Там усё па інструкцыі складаецца, без клею. Атрымалася вельмі прыгожа, але галоўнае — спадабаўся сам працэс. Сядзіш сабе, крок за крокам збіраеш — і адчуваеш сябе спяцом, стваральнікам!

Яшчэ быў выпадак: ішоў я неяк праз сквер побач з БНТУ, бачу — сабраліся студэнты вакол чарцяжа. У аднаго быў чарцёж у руцэ, у іншай руцэ ён трымаў цыгарэту. Хлопец з такім азартам і імпэтам тлумачыў іншым пра чарцёж, што нават на цыгарэту забыўся, яна ўжо амаль дагарэла. Мне гэтая карціна адбілася ў галаве на ўсё жыццё. Такія моманты акурат і падштурхнулі ісці на архітэктуру.

У дадатак, сярод мастакоў пануе досыць спецыфічная атмасфера: дасягнеш поспехаў — нажывеш ворагаў. Мне так не хацелася гэтага ўсяго — пайшоў у архітэктуру...

*— У архітэктуры па-іншаму?*

— Па-іншаму. Сярод, скажам, звычайных дызайнераў інтэр'ераў я такога не сустракаў. У архітэктараў, у параўнанні з мастакамі, працы заўжды хапала, таму, магчыма, і атмасфера не такая напружаная. Мастакі, безумоўна, розныя ёсць, але ёсць такія, што сядзяць у пазыках, напішуць карціну — раздадуць пазыкі, а пасля набіраюць новыя... Стаўленне такое да штодзённых рэчаў.

То бок, усё гэта добра, місія мастака, абавязак нешта несці народу, але калі ў цябе на стале пуста — карысці народу ты не прынясеш. Ёсць шмат і паспяховых мастакоў, гэта не правіла. Але з'ява ўсё адно нярэдкая акурат у гэтым асяроддзі. Таму — архітэктура.

### Міхась Чарняўскі і манета з Пагоняй

*— Цікавасць да гісторы — таксама праз бацьку?*

— Не зусім. Бацька сам часам здзіўляўся, калі я пачынаў распавядаць пра нейкія гістарычныя падзеі. Тут свая гісторыя: у шостым класе пад канец года па гісторыі за першы трыместр у мяне стаяла 6, за другі 7, за трэці 8, але ў выніку выкладчыца паставіла 9. Чаму? Бо ўбачыла рост. На мяне гэта паўплывала, зразумеў, што калі прыкладаеш высілкі — будзе плён, пачаў больш на гісторыю ўпор рабіць.



Іван Кавальчук (злева ў пінжаку) у момант вызвалення з СІЗА на Валадарскага

У дадатак, я ж маю мастацкае бачанне — магу стаяць на нейкім гістарычным месцы і ўяўляць, што тут адбывалася. Візуальная ўява, карацей. І чым больш даведваешся, тым больш вымалёўваеш сабе агульную карціну. То бок, гэта ўжо не занудныя факты з пажоўклых кніжных старонак, а падзея, якая нібыта адбываецца тут і зараз.

*— Мабыць, падобным гістарычным месцам апынуўся Мядзельскі замак?*

— На той момант я ўжо жыў у Менску і вучыўся на 3 курсе каледжу. Аднойчы ў Мядзелі сустрэўся са сваім сябрам Русланам Шошыным. Зараз ён журналіст. Ведаю яго з дзяцінства. Ішлі неяк, гутарылі на розныя тэмы. І тут ён сказаў, што ягоная ружовая мара — адрадзіць замак. Ён гэта ўжо абмяркоўваў з іншым хлопцам, Сяргеем Зарэцкім. Але Руслан ужо жыў у Польшчы, што ж ты адтуль адродзіш?

А я захапіўся, звязаўся з Зарэцкім, ён быў знаёмы з Міхасём Чарняўскім, патрыярхам айчыннай археалогіі. Узімку, памятаю, сустрэўся з ім і яшчэ паспеў пагутарыць. На жаль, яго ўжо няма сярод нас, але сваім «квітком» у археалогію я яму абавязаны. Далей выйшаў на археолага Міколу Плавінскага, які і ўзяў мяне на раскопкі Мядзельскага замку ўлетку 2013 года. Гэта былі мае першыя раскопкі.

*— І як уражанні ад раскопак?*

— Выдатныя, як ад саміх раскопак, так і ад кампаніі археолагаў. Памятаю момант, калі мы знайшлі першую манету. Гэта быў літоўскі срэбраны паўграш з выявамі Пагоні з аднаго боку, арла — з іншага. Надпіс «Аляксандр» сведчыў, што адчаканілі яго за часам Аляксандра Ягелончыка каля 500 гадоў таму! Трымаць у руках такую рэч — неймаверна! Я дагэтуль вельмі хацеў бы займець сабе такую манету — наўпрост на памяць.

### Замак каралевы Боны

*— Там і ўзніклі думкі пра перспектыву аднаўлення замку?*

— Пасля раскопак пачаў цікавіцца тэмай, шукаць матэрыял і напачатку нават расчараваўся. Чаму? Бо не было нідзе выяваў, старадаўніх планаў. То бок, магчыма, яно недзе ляжыць — у нейкай калекцыі ці архіве, але ў адкрытым доступе — анічога. Таму зараз развažаць пра паўнавартасную адбудову замку — гэта трызненне. Патрэбныя дакументы.

Сёння ёсць толькі адзін план, зроблены паводле дасledаваных археолагамі падмуркаў замку — усё. Гэтага мала. У 1980-х гадах там капаў Міхась Ткачоў, які і знайшоў месца, дзе стаяла галоўная замкавая вежа-данжон. Паводле прапорцыяў падмуркаў нібыта можна меркаваць пра яе вышыню, дадаць яшчэ аналагі, але ўсяго гэтага ўсё ж такі мала. Калі інфармацыя недакладная, то яна і не можа быць падставай паўнавартаснага аднаўлення.

Справа яшчэ ў тым, што замка няма ўжо досыць працяглы час, таму і з выявамі цяжка. Лічыцца, што замак пачынаўся як фарпост нашых продкаў падчас крыжацкіх нападаў з поўначы. Свае рысы фартэцыя канчаткова набыла на мяжы XV–XVI стагоддзяў, пасля каралева Бона яшчэ і аздобіла замак знутры: падчас раскопак было знойдзена мноства рэнесансных кафлі, якая часам не саступае аналагам з Вільні. Лічыцца, што гісторыя замку спыняецца падчас Паўночнай вайны на пачатку XVIII, калі фартэцыя была спаленая.

*— Замак быў драўляны?*

— Хутчэй, змяшаны варыянт — вежа была каменнай, але асобныя ўчасткі маглі быць збудаваныя з дрэва. Пра сцены невядома, напрыклад. Была такая сярэднявечная схема: будаваць каменную вежу-данжон, а вакол ладзіць драўляныя ўмацаванні. Магчыма, і ў нас было акурат так.

### «У Мядзелі можам зрабіць свае Трокі»

*— Замак можна даследаваць, гэта цікава, але чаму ты лічыш, што варта адбудоўваць?*

— Важная дэталь: замак месціўся на паўвостраве (таксама пад назвай Замак) на возеры Мястра. Дык вось, гэты паўвостраў зараз банальна зарастае дрэвамі і кустоўем! З аднаго

боку, гэта добра, бо там будзе менш швэндацца розная спрэчная публіка. З іншага — уражанне ствараецца скрушнае. Нават мост, які ідзе на Замак, паламаны. Карацей, зараз там поўна паваленых дрэваў, нават прайсці цяжка. А падмурак, які застаўся «жывы», сёння разбураецца каранямі дрэваў.

Мне б хацелася, каб гэтае месца ажыло і стала прэзентабельным, нагадвала пра гераічны дух нашай даўніны. Аднаўлены замак мог бы стаць сур'ёзнай турыстычнай атракцыяй і для самога Мядзела, які амаль не развіваецца, нягледзячы на вялізны рэкрэацыйны патэнцыял — азёрны край усё ж такі! Гэта мог бы быць грандыёзны нацыянальны праект па аднаўленні спадчыны, накшталт таго, што літоўцы зрабілі ў Троках. Сёння ўсё гэта я трымаю ў сваёй галаве, я гэта бачу, але хацелася б, каб убачылі і іншыя.

***— Фактычна, гэта візуалізацыя гісторыі?***

— Канешне, гэта сведчанне, што наша гісторыя — не пустое месца, зарослае пустазеллем. Адна справа — стаяць на горцы і чуць расповеды, што тут было нешта. Іншая справа — стаяць у самім замку і адчуваць дух сівых стагоддзяў. Гэты дух сапраўды ўплывае на асобу. Варта трапіць у тую ж вежу Гедыміна ў Вільні, каб надоўга падзарадзіцца энергіяй — гэта сапраўды важна.

Улічыце таксама, што ў плане гістарычных помнікаў у Мядзелі асабліва больш нічога няма. Таму замак мог бы стаць выдатным полюсам прыцягнення публікі звонку, які б цудоўна дапоўніў прыродны патэнцыял рэгіёну.



Мядзельскі замак на малюнку, які Кавальчук даслаў з СІЗА

## «У чатырох сценах вымалёўваў кожную дробязь»

***— У СІЗА ты маляваў замак: гэта былі рамантычныя фантазіі на тэму альбо спроба навуковай рэканструкцыі?***

— Калісьці я глядзеў аналагі фартэцый па тым перыядзе, таму абапіраўся на тое, што знайшоў, дадаўшы да гэтага расповеды Чарняўскага і Плавінскага. Даводзілася сустракаць звесткі, што замак у Мядзелі быў падобны на Трокі. Сапраўды, гэта ж блізка геаграфічна, таксама востраў, часавая разбежка — каля 50 гадоў, здаецца. Канешне, наш замак — не копія Трокаў, але тыя ж вежы маглі быць сапраўды падобнымі, магчыма, расстаўленыя па-іншаму.

Так я вырашыў зрабіць эскіз, а ў СІЗА для гэтага з'явілася багата вольнага часу. Там я шмат абдумваў, рабіў накіды. Шкада толькі, не было пад рукой патрэбных матэрыялаў і кніг… Затое быў час — вельмі шмат часу. Я два дні сядзеў адно вымалёўваў, абдумваючы ў чатырох сценах кожную дробязь. Так сядзіш наўпрост дурэеш, а тут — стваральная праца!

***— Усё ж такі, ты рабіў гэта для сябе альбо сапраўды марыш уключыцца і паўдзельнічаць некалі ў аднаўленні замку?***

— Вельмі хацелася б, я веру ў такую перспектыву. Магчыма, недзе сапраўды яшчэ ляжыць хаця б адна рухлявая выява замку, якая і дасць падставы для аднаўлення. Згадзіцеся, вельмі шмат гістарычных знаходак, калі казаць пра дакументы, робіцца нечакана — магчыма, такі план усплыве акурат у той момант, калі мы будзем да гэтага гатовыя.

Наогул, калі абстрагавацца ад мядзельскай тэмы, у Беларусі ў плане архітэктуры Беларусі яшчэ працаваць і працаваць. Возьмем прыклад: у Мінску безліч розных падземных аб'ектаў, тых жа савецкіх бункераў часоў «халоднай вайны». Яны пустуюць, стаяць наўпрост занядбаныя без патрэбы. Але ж іх можна рэстаўраваць і перарабіць у кавярні, рэстараны, квэст-румы і г.д. Прычым, кавярні адразу б атрымаліся атмасфернымі і тэматычнымі: і турыстам добра, і мінчукам, і гарадскім уладам.

Альбо прыклад з крэйдавымі кар'ерамі. Прыгажэзны ландшафт, прырода! Зараз туды нельга трапіць — адхопіш штраф. Часам падаецца, што ў нас толькі і ўмеюць забараняць… А можна было б аздобіць, раскруціць у турыстычным плане, пусціць туды дробны бізнес — хай бы гандлявалі чым заўгодна ў сезон адпачынку. Быў бы плён і для людзей, і для дзяржавы ў выглядзе падаткаў, чаму не?

***— Яшчэ раз вернемся да Мядзела: ты любіш гэты горад, але зараз не жывеш там. Што мае здарыцца, каб моладзь не пакідала родныя мясціны?***

— Думаю, гэта тычыцца ўсіх гарадоў. Пытанне заробкаў, пытанне перспектывы… Мой аднакласнік, працаўнік УКСу, займаецца праектаваннем будынкаў па раёне. Год таму ён зарабляў 600 рублёў на месяц, зараз — 300. Ён мае выдатную кватэру, але ўжо глядзіць у Мінск. І гэта той, хто хацеў застацца — і застаўся. А багата хто ад пачатку меў вектар на ад'езд: у лепшым выпадку, у сталіцу, у горшым — за мяжу… Гэта вельмі скрушна. Мае з'явіцца перспектыва, каб чалавек адчуваў сябе фінансава бяспечна, бачыў магчымасці росту.

## «Нашу даведкі, што падчас абароны дыплому быў у СІЗА…»

***— Што наконт іншых заняткаў, спорту, напрыклад?***

— З дзяцінства хацеў стаць дужэйшым. Уявіце сабе худзенькага дзіцёнка, ды яшчэ і невысокага росту. З часам зразумеў, як што робіцца, пачаў хадзіць у залю. Мужчына ж мае выглядаць мужчынам — незалежна ці мастак ён, ці рабочы з МТЗ. Па-рознаму, канешне, было — займаўся, дасягаў поспеху, пасля папускаў лейцы, з'язджаў… Зараз адчуваю, што амаль дайшоў да таго аптымальнага стану, які хацеў.

Калі хаджу ў залу, адчуваю сябе паўнавартасным чалавекам: з'яўляецца больш энергіі, бадзёрасць. Калі займаешся спортам, то і мазгі, і зрок адпачываюць, гэта вядома. А ў выпадку з маімі прафесійнымі заняткамі гэта акурат вельмі патрэбна.

***— Падарожжы не ўваходзяць у сферу цікавасцяў?***

— Я ніколі не быў у гарах, трапіць туды — яшчэ адна мара. Мы з сябрам акурат выношваем гэтую ідэю, закупімся рыштункам — і пагналі! Мяне не засмучае, што няма вопыту — гэта справа нажыўная. Я падрыхтуюся да ўсяго сам, веру, што атрымаецца.

Што тычыцца паходаў у лес — гэта наогул завядзёнка. У лесе я адводжу душу, адпачываю. Сам лес на маю мастацкую душу ўплывае незвычайна. Мне ў дзяцінстве багата казак распавядалі, дзе ішлося пра лес. Дык мне ў лесе дагэтуль падаецца, што сам трапіў у казку, і зараз адбудзецца нешта незвычайнае.

***— Што збіраешся рабіць бліжэйшым часам?***

— Ёсць планы прафесійныя — заняцца дызайнам не толькі інтэр'ераў, але і сайтаў. Ужо папярэдне гутарылі з сябрамі пра гэта, вельмі хочацца паспрабаваць. Пры гэтым архітэктуру кідаць не збіраюся.

А яшчэ мне трэба ўсё ж такі давучыцца, атрымаць дыплом, бо мяне адлічылі з універсітэту. Зараз нашуся з паперамі, бо, маўляў, няма доказу, што я адсутнічаў на здачы дыплому па паважнай прычыне. Хоць у той час я знаходзіўся ў СІЗА… Вось і нашу даведкі, што быў за кратамі. Калі ўсё атрымаецца, то дадуць магчымасць абараніцца.

## «З нашым народам — хоць у пекла!»

***— Ці ёсць ужо планы на сям'ю?***

— Пакуль не задаюся такой мэтай. Ранавата. Але дом сабе ўжо хачу збудаваць.

***— Калі б ты праектаваў дом для сябе — што б гэта было?***

— На выбар два стылі. Гэта стыль прэрый, знакаміты ў ЗША. Іншы варыянт — мадэрнізм ці хайтэк.

***— Магчыма, ты ўжо маляваў праект свайго дому мары?***

— Пакуль не, бо найперш трэба хаця б зямлю набыць. У ідэале — побач з лесам. Грыбоў, ягад пазбіраць, зёлак на гарбату. Не губляю надзею, што ў Беларусі ўсё зменіцца ў лепшы бок, а закінутыя цэхі заводаў пачнуць прадаваць пад жыллё, як на захадзе. Можна было б набыць такі невялічкі цэх, аформіць у стылі лофт, зрабіць там і майстэрню, і праектную. Усё што трэба для жыцця і працы.

***— Як лічыш, час у зняволенні цябе неяк змяніў?***

— Так, карэнным чынам. Зараз разумею, каму давяраць, а каму не. Калі толькі трапіў — вагаўся. Зразумеў таксама, што губляю час. Калі выйшаў, стала надзвычай прыемна сустрэцца з кім-небудзь і элементарна пагутарыць. Раней быў больш самотнікам, любіў дома пасядзець, парабіць чаго… Зараз усё па-іншаму. Сёння я маю працу, займаюся рознымі падзаробкамі — заняты зранку да ночы.

***— Стамляешся?***

— Не. Бацька казаў, найлепшы адпачынак — змена віду дзейнасці. Няма часу стамляцца (смяецца). Зразумеў, дарэчы, што дробязі таксама важныя і прыносяць задавальненне. Нават рабіць сабе яешню на патэльні — гэта шчасце. Там жа такога няма. Хаця здаецца, ну што тут такога?..

Дарэчы, калі выйшаў, то ўбачыў здымкі, як людзі стаялі з нашымі партрэтамі, з маім таксама. Я вельмі ўдзячны, калі б не салідарнасць, мы наўрад ці б выйшлі. Так я зразумеў, што гэта сапраўды наш народ, і з ім хоць у пекла — пройдзем, праб'емся!


Нарачанскія азёры


Цырк на праспекце Незалежнасці

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Бабуля Мароз

Берлінскія феміністкі святкуюць перамогу — упершыню ў гісторыі Берліна жанчынам дазволілі выконваць ролю Крампуса — так у Германіі называюць Дзеда Мароза ці Санта-Клаўса. Як правіла, з 1949 года ролю Крампуса выконваюць мясцовыя студэнты, якім, як і паўсюль у свеце, бракуе грошай. Фармуе спіс студэнтаў, што жадаюць зарабіць працай Дзеда Мароза, студэнцкі прафсаюз. Прычым, конкурс на гэтую пасаду фантастычны — у мінулым годзе на 225 вакансій падалі заявы 2700 студэнтаў. У студэнтак шанцаў для такога заробку, натуральна, не было. Максімум, што ім дазвалялі, — выконваць ролю анёлаў. Аднак цяпер у гэтай галіне пачаліся радыкальныя перамены. Кіраўніцтва прафсаюзу выступіла супраць манаполіі мужчынаў на ролю каляднага чараўніка і дамаглося адпаведнай рэформы. У прафсаюзе ўжо прыдумалі назву для новага персанажа — Калядная жанчына. Што з гэтага атрымаецца, пакуль цяжка сказаць. Кансерватыўная прэса іранічна прагназуе з'яўленне ў хуткай будучыні калядных гомасексуалаў і калядных трансгендэраў.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Першая кніга на лацініцы

Кіраўнік Казахстана толькі 29 кастрычніка падпісаў закон, паводле якога быў зацверджаны казахскі лацінскі алфавіт. І вось на казахскай лацініцы ўжо выдадзена першая кніга. Гэта кніга Нурсултана Назарбаева «Час і думы», прэзентацыя якой прайшла ў межах урачыстага адкрыцця цэнтра па вывучэнні лацінскай графікі ў Астане. І адразу ж выбухнуў велізарны скандал. У апазіцыі звярнулі ўвагу на тое, што кніга Назарбаева была выдадзена на тым варыянце лацінкі, які быў афіцыйна прыняты ўсяго пару дзён таму. Аднак усім відавочна, што выданне кнігі — нават і твору кіраўніка дзяржавы — займае далёка не пару дзён. Тым больш — пераклад на яшчэ не апрабаваны варыянт графікі. Між тым, варыянты казахскай лацінкі разглядалі ў парламенце пачынаючы з верасня. Грамадству прапанавалі выбраць з некалькіх варыянтаў. І аказваецца, што ўсё гэта было толькі імітацыяй! Яшчэ з верасня быў зацверджаны варыянт, які ўхваліў кіраўнік казахаў. Праўда, усе нараканні з боку апазіцыі афіцыйная Астана традыцыйна праігнаравала.

**Паводле казахскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Якая форма патрэбная зборнай?

У Іспаніі ўзнікла незвычайная палеміка вакол дызайну формы нацыянальнай зборнай па футболе (у гэтай форме каманда будзе гуляць на Чэмпіянаце свету ў Расіі). Спрэчка дастаткова дзіўная, калі ўзгадаць, што іспанцы традыцыйна гуляюць у чырвоных кашулях. Нездарма за іспанскімі футбалістамі замацавалася мянушка «чырвоныя фурыі». Аднак гэтым разам на чырвоных кашулях з'явілася фіялетавая паласа, што і стала дэтанатарам дыскусіі. Справа ў тым, што фіялетавы колер лічыцца колерам Іспанскай Рэспублікі (1931–1936), якую не любяць іспанцы правых поглядаў. Акрамя таго, Іспанія праз падзеі ў Каталоніі перажывае выбух вялікадзяржаўнага нацыяналізму і, адпаведна, настальгіі па часах дыктатуры Франка, які знішчыў тую Іспанскую Рэспубліку. Як следства, хапае заўзятараў, якія патрабуюць ад кампаніі «Adidas» (менавіта гэтая фірма атрымала замову на вытворчасць формы для зборнай), зрабіць новы варыянт футболак. У выпадку адмовы фанаты-нацыяналісты пагражаюць байкатаваць прадукцыю «Adidas», і нават сам чэмпіянат.

**Паводле іспанскай прэсы**

### РАСІЯ. Ці абгоніць Сабчак Хакамаду?

У Расіі мода на жанчын — кандыдатак на пасаду прэзідэнта. Ужо двое — Ксенія Сабчак і Кацярына Гардон — заявілі пра сваё жаданне ўдзельнічаць у выбарах прэзідэнта, якія адбудуцца ў 2018 годзе. СМІ паведамляюць, што вось-вось пра сваю балаціроўку заявіць Аксана Дзмітрыева, адна з лідараў «Партыі росту». Падобная тэндэнцыя падштурхнула прэсу да таго, каб узгадаць пра гісторыю ўдзелу расіянак у прэзідэнцкіх гонках. Жанчынай-першапраходцам у гэтай сферы можна назваць Галіну Старавойтаву (забітая ў 1998 годзе), якая ў 1996 годзе паспрабавала стаць кандыдатам у прэзідэнты, аднак Цэнтрвыбаркам адмовіўся яе рэгістраваць. Праз чатыры гады Эла Памфілава (цяпер кіраўнік ЦВК РФ) змагла зарэгістравацца кандыдатам, але атрымала па выніках галасавання толькі 758 тысяч галасоў (прыкладна 1 працэнт выбаршчыкаў). А рэкорд пакуль — у ліберальні Ірыны Хакамады, якая ў 2004 годзе сабрала 3,8 працэнта галасоў. У 2012-м жанчын у спісе кандыдатаў не было. Што будзе ў 2018-м? Пакуль палітолагі сумняваюцца, што вынік Хакамады на гэтых выбарах будзе пабіты. Палітычныя букмекеры лічаць, што верагоднасць рэгістрацыі той жа Сабчак (самая медыйна раскручаная кандыдатка ў параўнанні з Гардон і Дзмітрыевай) складае толькі 28 працэнтаў.

**Паводле расійскай прэсы**



# На парозе Кіберкастрычніка

Алег НОВІКАЎ

**Цяперашнія эмацыйныя спрэчкі наконт падзей кастрычніка 1917 года трошкі дзіўныя з улікам таго, што на носе — новая сацыяльная рэвалюцыя.**



Фота www.eurekalert.org

Анадызе тая рэвалюцыя вельмі хутка — калі верыць спецыялістам, ужо праз 15–20 гадоў. Прычым стрэлу Аўроры — сімвалічнай падзеі, што павінна сведчыць пра надыход новай эры — гэтым разам не будзе. Па сутнасці, паўторыцца тая самая схема, якая была з мабільнікамі або інтэрнэтам. Спачатку яны ўспрымаліся людзьмі хутчэй як забаўка або як знак сацыяльнага статусу, аднак не самы важны атрыбут жыцця. Аднак сёння ўжо цяжка ўявіць наш побыт без гэтых прыладаў. Гэтак жа праз пару дзесяцігоддзяў чалавецтву будзе незразумела, што рабіць без робатаў, якія будуць выконваць за людзей вялікі кавалак паўсядзённай працы.

Пакуль сярод спецыялістаў няма адзінай думкі наконт таго, якія працоўныя сферы дакладна зоймуць машыны. На думку найбольш смелых футуролагаў, штучны розум будзе здольны замяніць чалавека нават у крэатыўных прафесіях, кшталту перакладчыкаў. Але няма сумневаў, што прымітыўныя кваліфікацыі — будаўнікоў, працаўнікоў на канвееры або шафёраў — нават цяперашнім машынам адолець пад сілу.

Ужо сёння ёсць краіны, якія карыстаюцца аўтаномнымі грузавікамі для дастаўкі тавараў. Калі так будзе і далей, катаклізмаў не пазбегнуць. Кіроўца грузавіка — адно з самых распаўсюджаных працоўных месцаў у Амерыцы (каля 3,5 мільёна). Што будзе праз пяць гадоў, калі іх заменяць на транспартныя сродкі, якія не маюць патрэбы ў кантролі з боку чалавека?

Па факце мы будзем мець радыкальную трансфармацыю грамадства, калі проста знікне цэлы пласт прафесіяналаў, якіх Маркс называў «вытворчым пралетарыятам». Як следства, дзясяткі мільёнаў працоўных месцаў могуць быць страчаны ў максімальна кароткія тэрміны

**Ці не ахопіць робатаў у адзін цудоўны дзень пачуццё класавай нянавісці да эксплуататараў-гомасапіенс? Ці не пачнуць яны ствараць прафсаюзы, фармаваць палітычныя патрабаванні і, нарэшце, займацца падрыхтоўкай рэвалюцыі?**

(5–10 гадоў) — больш, чым было страчана ў час Вялікай рэцэсіі.

Дасюль у экспертным клубе няма адказу, што рабіць з такой колькасцю людзей. Адны кажуць, што без працы яны не застануцца. Лічыцца, што эра машынаў будзе патрабаваць вялікай колькасці спецыяльнасцяў, пра якія мы сёння нават не ведаем.

Іншыя кажуць, што капіталізм будзе не ў стане вырашыць гэта пытанне. З аднаго боку, вялікую масу беспрацоўных трэба карміць, каб не паўтарыліся працэсы, што назіраліся падчас крызісу 1919 года: у тыя часы дэмакратыя як мадэль аказалася пад пытаннем.

Па-другое, з кожным днём машыны будуць забіраць у чалавека ўсё новыя і новыя сферы дзейнасці — аж да выканання функцый дзяржаўных менеджэраў і хірургаў. У гэтай сітуацыі чалавецтва будзе вымушанае пераходзіць на рэйкі аўтаматызаванага камунізму, як толькі робаты зоймуць усе працоўныя месцы.

Аднак той камунізм будзе мець значную праблему. Апісаная перспектыва вымушае ставіць нязручнае пытанне: ці не ахопіць робатаў у адзін цудоўны дзень пачуццё класавай нянавісці да эксплуататараў-гомасапіенс? Ці не пачнуць яны, падобна рабочым XIX стагоддзя, ствараць прафсаюзы, фармаваць палітычныя патрабаванні і, нарэшце, займацца канспіратыўнай працай па падрыхтоўцы рэвалюцыі? Пра такі варыянт развіцця цывілізацыі кажа той жа вядомы філосаф Славой Жыжэк.

Праўда, версія пра прафсаюзы робатаў — гэта для гурманаў. Бунт машынаў можа пачацца з-за значна банальнейшых прычынаў. Адзін брытанскі прафесар прапанаваў наступны алгарытм выхаду машыны з-пад кантролю людзей праз прыклад з сашчэпкамі: «Вы ставіце перад штучным інтэлектам задачу рабіць сашчэпкі — як мага больш і лепш. Робат у нейкі момант разумее, што чалавек уяўляе пагрозу, таму што можа выключыць кампутар — што будзе супярэчыць задачы рабіць як мага больш сашчэпак».

Як бачым, будучыня выглядае дастаткова інтрыгуючай. Адно можна сцвярджаць дакладна: на фоне такіх тэктанічных зрухаў у свеце пытанне Кастрычніцкай рэвалюцыі і розныя яе аспекты хутка шмат у чым згубяць цяперашнюю актуальнасць. Хіба толькі галоўны робат-рэвалюцыянер у будучыні возьме сабе канспіратыўную мянушку «Ленін».

# «Праз год ФРГ чакаюць новыя выбары»

Алег НОВІКАЎ

**Германія ўжо рыхтуецца святкаваць Каляды, напярэдадні якіх Ангела Меркель абяцала прэзентаваць свой новы ўрад. Аднак чым бліжэй святы, тым больш сумневаў, што абяцанне будзе выкананае. Чаму буксуюць перамовы і што чакае ФРГ у выпадку іх правалу, распавядае нямецкі журналіст Пітэр Бурк.**



**Пазіцыі ў Меркель моцныя, і яна сама будзе вырашаць, калі ёй сыходзіць. Канфрантацыя ўнутры партыі не дадае Меркель пунктаў на кааліцыйных перамовах, аднак ніхто не мае сумневаў, што менавіта яна ўзначаліць новы кабінет**

***— Падарункам пад ялінку для ўсіх немцаў павінна была стаць кааліцыя «Ямайка», аднак канклаў прадстаўнікоў чатырох партый (кансерватары, баварскія хрысціянскія сацыялісты, зялёныя і лібералы) відавочна зацягваецца...***

— Сітуацыя трошкі камічная, паколькі старт на перамовах быў вельмі бурлівым. Амаль за тыдзень быў выпрацаваны агульны падыход па блоку тэмаў. Аднак некалькі дзён таму Меркель заявіла пра магчымасць датэрміновых выбараў. Высветлілася, што перамовы зайшлі ў глухі тупік праз тэмы энергетыкі і ўцекачоў.

Аднак больш хвалюе тое, што клімат на перамовах не вельмі канструктыўны. Кансультацыі ператвараюцца ў нейкі покер, калі тыя ж баварцы блефуюць наконт выхаду з перамоваў. Адначасова лідар лібералаў Крысціян Лінднер робіць сваё персанальнае шоў. Нарэшце, Меркель таксама не гатовая ісці ў кааліцыю любым коштам. Створаны па такіх правілах гульні ўрад не мае шанцаў доўга працаваць. Але новага галасавання пакуль таксама не будзе. Тым больш, выбары ў цяперашніх умовах, як сведчаць апытанні, нічога не зменяць.

Кааліцыя з'явіцца, як і абяцала канцлер. Аднак з часам, на маю думку, сама ж Меркель і пахавае кабінет. Для гэтага будзе абраны зручны момант, калі адказнасць за крызіс можна будзе перакласці на аднаго з малодшых партнёраў. Хутчэй за ўсё, праз год ФРГ чакаюць новыя выбары.

***— Апошні выпуск уплывовага часопіса «Stern» паведамляе, што ўнутры Хрысціянска-дэмакратычнага саюзу (CDU) пачаліся дэбаты пра пераемніка Меркель. Ці ёсць нейкія канкрэтныя прозвішчы, і як уплывае конкурс новага старшыні на кааліцыю?***

— Пра тое, што CDU шукае новага лідара, пісалі і раней. Таксама называліся некаторыя прозвішчы, аднак пакуль нічога канкрэтнага няма. Праўда, цяпер аднапартыйцы сапраўды часцей кажуць пра неабходнасць адстаўкі Меркель, ствараецца адпаведная атмасфера ў прэсе. Асабліва незадаволеная канцлерам правая фракцыя. За часы Меркель CDU зрабіла вялікі крок у бок цэнтру, і зараз часта ўспрымаецца бюргерамі, як у свой час успрымалася Сацыял-дэмакратычная партыя (SPD) — памяркоўная партыя сярэдняга класу.

Правыя кансерватары баяцца, што праз дрэйф Меркель у накірунку цэнтру стары электарат будзе міграваць да правапапулістаў з партыі «Альтэрнатыва для Германіі». І сапраўды, першы званок ужо прагучаў на апошніх выбарах, калі не Хрысціянска-дэмакратычны саюз, а «Альтэрнатыва для Германіі» стала вядучай правай сілай ва ўсходніх землях.

З іншага боку, пакуль пазіцыі ў Меркель моцныя, і яна сама будзе вырашаць, калі ёй сыходзіць. Натуральна, канфрантацыя ўнутры партыі не дадае Меркель пунктаў на кааліцыйных перамовах, аднак ніхто не мае сумневаў, што менавіта яна ўзначаліць новы кабінет. Не будзем забываць, што днямі часопіс «Forbes» у сёмы раз прызнаў яе самай уплывовай жанчынай у свеце.

***— У нямецкай прэсе таксама з'явіліся інсінуацыі пра тое, што новым лідарам сацыял-дэмакратаў можа быць бургамістр Гамбургу Олаф Шольц...***

— Не думаю, што Марцін Шульц — цяперашні лідар эсдэкаў — так хутка камусьці саступіць месца. У любым выпадку, хто б ні быў каля партыйнага штурвалу, SPD як вядучая партыя апазіцыі вымушаная арыентавацца налева. Інакш цяжка крытыкаваць новы ўрад, які, відавочна, будзе мець імідж ураду неліберальных рэфарматараў. Усе чатыры партыі-кааліцыянты заклікаюць да зніжэння падаткаў і скарачэння фінансавання публічных службаў. Праўда, пакуль няма гарантый, што SPD будзе здольная перафарматавацца ў сапраўдную апазіцыйную сілу — праз тую ж моцную ўнутраную бюракратыю.

***— Ці сочаць простыя немцы за перыпетыямі перамоваў?***

— Парадаксальна, аднак сёння найбольшы інтарэс да перамоваў наконт кааліцыі дэманструюць палітычна неадукаваныя тынейджары. Сярод часткі падлеткаў папулярная думка наконт таго, што кааліцыя «Ямайка», як толькі пачне працу, адразу абавязкова легалізуе ў ФРГ марыхуану (марыхуана — складнік папулярнай на Ямайцы рэлігіі растафары). Што тычыцца звычайных бюргераў, то тэма кааліцыі іх пакуль мала цікавіць. Нямецкая палітычная мадэль традыцыйна дастаткова стабільная. Былі прэцэдэнты, калі падобныя перамовы цягнуліся значна даўжэй. Праўда, шэраг палітолагаў чакаюць, што пік крызісу ў перамовах прыпадзе на сярэдзіну лістапада, што адразу зробіць тэму топавай.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Уладзімір Зяленскі



Украінскі палітыкум абмяркоўвае магчымы ўдзел вядучага ўкраінскага коміка ў прэзідэнцкіх выбарах 2019 года. Не выключаюць нават яго выхад у другі тур.

Так высока акцёр можа прабіцца, дзякуючы негалоснай падтрымцы з боку Пятра Парашэнкі, якому трэба зблытаць карты сістэмнай апазіцыі за кошт новай, папулярнай у народзе фігуры. Для гэтай місіі Зяленскі — амаль ідэальны кандыдат. Ён славуты ў тым ліку ўдзелам у камедыйным серыяле «Слуга народа», дзе выканаў ролю школьнага настаўніка, які перамог на выбарах прэзідэнта. Паводле сюжэту, экс-настаўнік, што апынуўся на пасадзе гаранта, актыўна змагаецца з карупцыяй і іншымі негатыўнымі праявамі палітычнай рэальнасці. Усеагульнае захапленне ўкраінцаў выклікала сцэна, калі герой Зяленскага расстрэльвае карумпаваных дэпутатаў Вярхоўнай Рады проста падчас сесіі парламента. Як следства, палітычны праект пад умоўнай назвай «Слуга народа» можа выклікаць цікавасць сярод выбаршчыкаў.

Па-другое, у фінале выбараў Парашэнку патрэбны слабы спарынг-партнёр. Раней лічылася, што гэту ролю даручаць салісту гурта «Океан Эльзи» Святаславу Вакарчуку. Аднак зараз усё больш кажуць пра тое, што Вакарчуком усур'ёз зацікавіліся амерыканцы, якія падчас выбараў гатовыя інвеставаць у музыку свае рэсурсы і забяспечыць інфармацыйную падтрымку.

### Нікалас Мадура



Кіраўніка Венесуэлы, якая з-за працяглага крызісу знаходзіцца напярэдадні дэфолту, нарэшце з'явіўся шанец адрапартаваць насельніцтву пра поспехі яго каманды.

Суседняя Гаяна пагадзілася пачаць перамовы пра лёс рэгіёну Esequibo на пляцоўцы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (ААН). Esequibo, плошча якога складае прыкладна 160000 квадратных кіламетраў — зона старога канфлікту паміж дзвюма краінамі. Каракас лічыць гэтую тэрыторыю сваёй, бо яна была часткай іспанскай калоніі, на базе якой з'явілася незалежная Венесуэла.

У 1814 годзе Гаяну захапілі брытанцы. Яны ж пашырылі межы новай калоніі за кошт Esequibo. Тая мяжа захавалася і пасля абвяшчэння Гаянай незалежнасці. Венесуэльцы ніколі не прызнавалі новыя межы. Ва ўсіх 26 Канстытуцыях, што дзейнічалі ў краіне, падкрэслівалася, што Esequibo — гістарычная венесуэльская тэрыторыя. У 1899-м Каракас нават дамогся правядзення арбітражу ў Парыжы, які, праўда, скончыўся не на яго карысць. Праваліліся і спробы вярнуць Esequibo праз ААН у сярэдзіне XX стагоддзя, калі з Гаяны сышлі брытанцы. І вось зараз — новы раўнд перамоваў.

Тое, што Гаяна пагадзілася на кансультацыі, выглядае трошкі дзіўна. У 2016-м геолагі адкрылі ў рэгіёне велізарныя радовішчы газу, золата і нафты, якія Венесуэла тут жа абвясціла сваімі нацыянальнымі рэсурсамі.

### Абдэль Фатах ас-Сісі



Прэзідэнт Егіпта выдаў загад аб звальненні кіраўніка Генеральнага штаба Узброеных Сіл Махмуда Хігазі і перавёў яго ў дарадцы па стратэгічным планаванні і кіраванню крызісамі.

Таксама вялікія кадравыя ратацыі адбыліся ў Міністэрстве ўнутраных спраў Егіпта. Некаторыя лічаць, што, калі перастаноўкі ў МУС мелі арганізацыйныя прычыны, то ракіроўка кіраўніка Генштаба Егіпта — гэта ўжо палітычны крок.

Кіраўнік Генштаба на момант з'яўлення загада пра яго звальненне знаходзіўся ў ЗША, дзе прымаў удзел у канферэнцыі кіраўнікоў генштабоў. Звольнены Хігазі быў аўтарытэтам у асяроддзі ваенных, уваходзіў у эліту армейскага генералітэту.

Рашэнне пра змяненне кіраўніка Генштаба, на думку шмат каго, з'яўляецца прыкметай таго, што гарант занепакоены ўзроўнем лаяльнасці жаўнераў. Гэта магло згуляць негатыўную ролю падчас перадвыбарчай кампаніі вясной 2018 года. Цяпер прэзідэнт ас-Сісі не мае раўназначных апанентаў, што, быццам, гарантуе яму перамогу.

Таксама ўсе звяртаюць увагу на тое, што новы кіраўнік Генштаба не мае такіх цесных сувязяў з амерыканскімі вайскоўцамі, як яго папярэднік. Таму можна сцвярджаць, што адносіны Егіпта і ЗША перажываюць пахаладанне, чым дакладна паспрабуе скарыстацца Масква.

# Маўчаў 60 гадоў пра тое, як дапамагаў Ларысе Геніюш



Сяргей ЧЫГРЫН

**З 83-гадовым Вячаславам Берастоўскім я пазнаёміўся нядаўна. Жыве ён у Слоніме адзін, бо жонка некалькі гадоў таму памерла. Вячаслаў Канстанцінавіч, нягледзячы на свой сталы ўзрост, выглядае даволі ўпэўнена і моцна.**

Яго невялікая двухпакаёўка нагадвае своеасаблівы музей. Асабліва прыцягваюць увагу круглыя драўляныя рамачкі з надпісамі і партрэцікамі. У адной з іх — Тадэвуш Касцюшка і тэкст: «Воля, роўнасць, незалежнасць». У другой рамачцы пазнаю Міхала Казіміра Агінскага з тэкстам: «Слонім, М. Агінскі». На трэцяй — буслы ў гняздзе і словы: «Воля і гонар. Жыве Беларусь». «Гэта маё хобі, я з маленства люблю што-небудзь майстраваць з дрэва», — прызнаўся Вячаслаў Канстанцінавіч.

Амаль усё жыццё ён адпрацаваў токарам на слонімскай фабрыцы «Тэкстыльшчык», і пра гэта не шкадуе. Бо была праца, добрая сям'я, выгадавалі дзяцей, растуць унукі і праўнукі. А яшчэ Вячаслаў Канстанцінавіч вельмі цікава і доўга можа распавядаць пра сваякоў і родных, якія жылі ў ХХ стагоддзі і якімі ён да сёння ганарыцца і часта ўспамінае.

«Ці праўда, — пытаюся ў Вячаслава Канстанцінавіча, — што вы былі знаёмыя з беларускай паэткай Ларысай Геніюш, якая жыла ў Зэльве?». «Так, — адказвае Васіль Берастоўскі. — Я сустракаўся з ёй у Зэльве тры разы...»

І стары слонімец пачынае прыгадваць той час і хуткія спатканні ў горадзе над Зальвянкай.

Справа ў тым, што ў 1930-х гадах цётка Вячаслава Берастоўскага Алімпіяда была замужам за Аляксандрам Панасікам. Панасік быў даволі багатым чалавекам, у Зэльве ён меў некалькі будынкаў, у адным з іх пасля вайны знаходзілася пошта. Кім ён працаваў і чым займаўся, Берастоўскі не ведае. І куды ён знік, як прыйшла ў 1939 годзе ў Зэльву савецкая ўлада, таксама ніколі не чуў. Магчыма, Панасіка арыштавалі органы НКУС і расстралялі.

А Алімпіяда Панасік з дачкой выехалі ў Польшчу і жылі ва Вроцлаве. Алімпіяда больш замуж ніколі не выходзіла. Але ў той час, калі ўсе да вайны шчасліва жылі ў Зэльве, Панасікі шчыра сябравалі з Ларысай Геніюш. Яны хадзілі адзін да аднаго ў госці, у іх былі маленькія дзеці: у Алімпіяды — дачка, у Ларысы — сын Юрка, які нарадзіўся ў 1935 годзе ў Зэльве.

— Першы раз я паехаў у Зэльву ў 1968 годзе, — пачаў успамінаць Вячаслаў Берастоўскі. — Мяне туды завёз сябра на матацыкле. Прывёз ён на Зэльвенскую аўтастанцыю. Там я адразу ўзяў зваротны білет на аўтобус у Слонім. Калі купіў білет, то хуценька пайшоў шукаць вуліцу і хату.

Недалёка ад хаты да мяне падышла нейкая жанчына і спытала: ці не Ларысу Антонаўну я шукаю? Я сказаў, што менавіта яе. Потым неяк непрыкметна з'явілася і сама паэтка, якой я хутка перадаў 500 савецкіх рублёў — вялікія па тых часах грошы. Яна іх узяла і адразу схавала. А мне ў рукі дала срэбную манету (сярэбранік). Я ўзяў манету і хуценька пайшоў на аўтастанцыю, бо праз пэўны час павінен быў прыехаць аўтобус да Слоніма.

На аўтастанцыі да мяне падышоў невядомы мужчына і спытаў, да каго я ў Зэльву прыязджаў. А потым сам дадаў: да паэткі? Я сказаў, што так, да паэткі і купіў у яе сярэбранік. Але далей наша размова спынілася — прыехаў аўтобус і я заскочыў у салон. А мужчына мне ў адказ яшчэ паспеў сказаць: «Мы яшчэ сустрэнемся, і, спадзяюся, хутка». Але я ўжо ад'язджаў у Слонім.

— Ці чапаў вас хто пасля гэтага першага візіту ў Зэльву?

— Не, ніхто.

— А хто вас накіраваў у Зэльву да Ларысы Геніюш?

— Мая цётка, якая жыла ў Слоніме. Яна неяк мне сказала, што ў Зэльве жыве адна бабка, вельмі трэба ёй завезці грошы, але так, каб ніхто мяне не бачыў там, і зрабіць гэта трэба як найхутчэй. Выканаць такую просьбу прасіла цётка Алімпіяда Панасік з Вроцлава — сястра майго бацькі. Гэту цётку я бачыў у жыцці толькі два разы.



Вячаслаў Берастоўскі, верасень 2017 года



У першым шэрагу сядзяць: Аляксандр Панасік і яго жонка Алімпіяда Пананасік, стаяць: Аксана Садоўская і Канстанцін Берастоўскі — бацька Вячаслава Берастоўскага. Зэльва, 1929 год. Фота друкуецца ўпершыню

— Але потым вы зноў вазілі грошы Ларысе Геніюш?

— Другі раз у Зэльву я паехаў рэйсавым аўтобусам у 1969 годзе. Быў я больш смялейшым, бо ведаў, дзе яе хата. Выйшаў на аўтастанцыі і смела пайшоў у належным кірунку. Увайшоў у хату, прывітаўся. Ларыса Антонаўна была ў хаце адна. Жылі Геніюшы дужа сціпла, гэта было бачна. Я перадаў грошы, Ларыса Антонаўна паставіла на стол нейкай настоечкі, мы па кроплі з ёй выпілі, яна распытала, як жыве цётка Алімпіяда, і я хуценька пабег на аўтастанцыю. Гэтым разам ніхто мяне не чапаў і не затрымліваў.

А трэці раз я вазіў дапамогу Ларысе Антонаўне ў 1972 годзе. Калі прыйшоў да яе ў хату, яна хацела мяне пачаставаць, але я сказаў, што мне нельга доўга затрымлівацца. Паэтка абняла мяне, паляпала па плячы, і я пайшоў на аўтастанцыю...

Калі Вячаслаў Берастоўскі наведаў польскі горад Ольштын і гасціў у роднай бацькавай сястры Аксаны Садоўнік, другая цётка з Вроцлава Алімпіяда Панасік шчыра дзякавала за дапамогу і казала, што Ларыса Геніюш — гэта наша сапраўдная змагарка і патрыётка і дапамагаць ёй — гэта для яе быў найвялікшы гонар у жыцці.

Даследчык творчасці Ларысы Геніюш Міхась Скобла неяк сказаў, што Алімпіяда Панасік у 1943 годзе сустракалася з Ларысай Геніюш у Празе...

Дарэчы, у тыя 1968–1972 гады, жывучы ў Зэльве, Ларыса Геніюш шчыра сябравала і перапісвалася з Міколам Прашковічам, Ірынай Крэнь, Алесем Белакозам, Юркам Голубам, Зоськай Верас, Сяргеем Панізьнікам, Адамам Мальдзісам, Максімам Танкам ды іншымі. Сяброў тады ў нашай паэткі і патрыёткі было шмат, але і ворагі вакол яе не спалі ў шапку...

Калі я развітваўся з Вячаславам Берастоўскім, ён сказаў, што даўно не быў у Зэльве і вельмі хоча паглядзець на хату, дзе жыла Ларыса Геніюш, наведаць яе магілу на мясцовых могілках. Я паабяцаў Вячаславу Канстанцінавічу, што мы туды ў бліжэйшы час абавязкова з'ездзім.

« Працяг.
Пачатак у № 39

Арсень ЛІС

# Пад негалосным апякунствам

**...Гэтым разам вырак Георгія Юрчанкі кнізе адмяніў старшыня Камітэта па друку Р.В. Канавалаў. Яго ўразілі рэпрадукцыі карцін і партрэтаў Пятра Сергіевіча. «Некія ўсе нашы людзі», — прамовіў. Многа не дам, пяць аркушаў. А заяўка ў вас ёсць?» — толькі і сказаў, на першы погляд, не надта даступны ўрадовец.**

Працуючы над дысертацыйнай тэмай, прысвечанай культурна-грамадскаму руху Заходняй Беларусі 1920–1930-х гадоў, я шчасліва спазнаўся з надзвычай багатым, шматгалосым, нацыятворным па прыродзе сваёй віленскім беларускім перыядычным друкам.

Нягледзячы на пераслед польскай адміністрацыяй, цэнзурай, ён выяўляў трывалую жыццястойкасць, імкліва развіваўся. Быў жывым арганічным голасам эпохі ўздымных у жыцці Беларусі 1920-х гадоў. Адметна, мастацка-выяўленчы, так бы мовіць, твар заходнебеларускай перыёдыкі тэтага часу выразна пазначаны яскравай у ідэйна-выяўленчым плане графікай мастака Язэпа Горыда (1896–1939).

Выкрывальная ў дачыненні да так званага санацыйнага рэжыму Пілсудскага сатырычная графіка Язэпа Горыда сцвярджала ідэалы і праўду беларускага вызваленчага руху.

Напісаўшы гісторыка-мастацтвазнаўчы нарыс пра жыццё і творчасць Язэпа Горыда, я падаўся ў выдавецтва «Мастацкая літаратура» з заяўкай на выданне яго кніжкай. З выданнем апошняй там склалася аналагічная сітуацыя з той, што адбывалася з выхадам маіх папярэдніх кніжак пра дзеячаў навукі і мастацтва. Тры гады запар з выдавецкага плана яе акуратна выкрэсліваў галоўны рэдактар Аркадзь Марціновіч.

На шчасце, у канцы 1970-х на становішча дырэктара «Мастацкай літаратуры» быў прызначаны М.Ф. Дубянецкі, які раней працаваў інструктарам ЦК КПБ. Да яго я і ўдаўся з высвятленнем лёсу кнігі пра Язэпа Горыда. Выслухаўшы маю скаргу-просьбу, паважаны Міхал Фёдаравіч неяк роздумна заўважыў:

— Штосьці даўно да мяне прыходзіў куратар з КДБ?..

А я яму, як кажуць, пад тое слова:

— Пэўна, ён прыходзіць да вашага галоўнага рэдактара.

У наступным годзе мая кніжка пра таленавітага мастака і годнага грамадзяніна пабачыла свет. Усімі шанаваная пісьменніца, загадчыца рэдакцыі крытыкі і літаратуразнаўства выдавецтва «Мастацкая літаратура» Вера Палтаран (яна тройчы ставіла майго Горыда ў выдавецкі план) павіншавала мяне з новай кніжкай, сказала некалькі цёплых слоў.

А я нарэшце ўразумеў, каму карцяць жыццё і смерць герояў маіх кніжак, іх думка аб Беларусі.



**Злева направа (ніжні шэраг) Міхась Шушкевіч, Барыс Сачанка, Алесь Яскві́ч, Іван Чыгрын, Аляксей Гардзіцкі, Міхась Чарняўскі. Стаяць злева направа: Арсень Ліс і Мікола Прашковіч. 1960-я гады**

***

Але час у сваім расповедзе мне вярнуцца да сумнапомных дзён восені 1973 года. Тады КДБ у Беларусі рэалізоўваў задуманую супраць навукоўцаў Акадэміі Навук абвінавачча-рэпрэсіўную акцыю. Задуманая справа спачатку фігуравала там пад назвай «Група Прашковіча». Пазней ёй было нададзена больш абагульненае, бесперспектыўнае найменне «Акадэмічны асяродак». Маладых навукоўцаў усеўладная дзяржаўная ўстанова аблыжна абвінавачвала ў беларускім нацыяналізме. Канкрэтна — у стварэнні менавіта арганізаванай групы. А гэта ўжо чытай, разумей — палітычная крамола, учынак антыдзяржаўны.

Праз нейкі час пасля тагачасных выклікаў навукоўцаў і літаратараў у КДБ стала відавочным, што было тое не прафілактычным «прашчупваннем настрояў інтэлігенцыі». Крылася за гэтым якаясьці канкрэтная мэта-задумка. Пра тое, што займалася ёю адмысловае аддзяленне дзяржбяспекі па барацьбе з беларускім нацыяналізмам, Сцяпан Міско, як старэйшы сярод нас, ды ў дадатак чалавек не без сувязяў (яго дзядзька акадэмік Пракапчук у Грамадзянскую вайну быў камісарам), даведаўся нават, што ўзначальваў тое падраздзяленне палкоўнік Рэпіч.

Ад Сцяпана Міхайлавіча (іранічна-пашанотна яго часам менавалі па бацьку: быў жа старэйшы сярод маладых) пачуў я і пра тое, што выкліканы ў КДБ Мікола Прашковіч быў там надта моцна нечым напалоханы. Ездзіў кудысьці з кадэбістамі, каб аддаць ім прыхаваныя там яшчэ не апублікаваныя вершы Ларысы Геніюш. І наогул выглядаў моцна прыгнечаным.

...Пры першай жа сустрэчы з Міколам на вуліцы я не прамінуў рэзкавата кінуць яму:

— Што ты такое ўтварыў, каб так напалохацца?

— А я перапісваўся з унучкай Івана Франко, — пачуў у адказ.

Сам тон Міколавага адказу здаўся мне крыху спецыфічным, але адразу я не прыдаў таму значэння, хоць элементарна было спытацца, што асаблівага магло быць у той перапісцы.

У цэлым гутарка з Міколам не клеілася. Ён неяк стаў азірацца па баках. Што канкрэтна пыталіся кадэбісты, у тым ліку і пра мяне, я так ад яго і не даведаўся. Хіба толькі пачуў пра іх нездаволенасць маім адказам: «Лис — хитрый, ничего не дал, не сказал». Быццам нешта я павінен быў ім расказаць. Ліс нават не даўмеўся, як след, зразумець мэты наладжанай імі мітрэнгі з выклікамі-допытамі.

А насамрэч не трэба было быць вялікім аналітыкам, каб здагадацца, што за ўсім гэтым крыецца якаясь практычная задумка спецслужбы. Але што канкрэтна можна было ўявіць, спраўдзіць?

Зрэшты, калі прааналізаваць палітычныя рэаліі часу, можна было зрабіць некаторыя высновы. За год да таго, у 1972-м, на Украіне ўжо адбыліся арышты навуковай інтэлігенцыі. Сярод арыштаваных згадвалі аўтара выдадзенай за мяжой кнігі «Інтэрнацыяналізм ці русіфікацыя?» Івана Дзюбу. Быў зняволены адзін з вальнадумных таленавітых маладых украінскіх паэтаў, пазней загублены ў лагерах Васіль Стус...

**Сцяпан Міхайлавіч — чалавек добры, але часам рэзкі, не стаў цырымоніцца. Недвухсэнсоўна даў зразумець няпрошаным гасцям, з якога яны ведамства, і выставіў за дзверы**

Яно, калі задумацца, то можна было ўспомніць і не такія даўнія апякунска-паліцэйскія «наезды» на студэнтаў БДУ і ў нас. «Разборку» КДБ са студэнтамі філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта ў 1963 годзе.

Рыгор Семашкевіч, тады яшчэ паэт-пачатковец, а ў будучым таленавіты навуковец і пісьменнік, дзяліўся з сябрамі некаторымі цікавосткамі свайго кнігазбору. Хлопцы ў інтэрнаце чыталі заходнебеларускі часопіс даваеннага часу «Шлях моладзі». Выдаваўся той перыёдык у Вільні з 1929 па 1939 год трыма маладымі беларускімі журналістамі Язэпам Найдзюком, Мар'янам Пацюкевічам і Янкам Багдановічам.

Выдаўцы стаялі на дэмакратычных незалежніцкіх беларускіх пазіцыях, адстойвалі сацыяльныя і нацыянальныя інтарэсы заходнебеларускага жыхарства. Выданне клікала да супраціву паланізацыі, якая паслядоўна праводзілася польскімі ўрадамі, яго адміністрацыяй у Заходняй Беларусі. Нумары маладзёвага беларускага часопіса чатырнаццаць разоў канфіскоўвала цэнзура, а выдаўцы яго, адпаведна, прыцягваліся да суда.

У «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» часопіс «Шлях моладзі» сёння аб'ектыўна ацэньваецца як прагрэсіўны, дэмакратычны орган моладзі Заходняй Беларусі. А вось увосень 1963 года загадам з гары, распараджэннем рэктара на філфаку БДУ праводзіцца сход, на якім самі студэнты і іх выкладчыкі мусілі выступіць з асуджэннем Рыгора Семашкевіча і яго сяброў за чытанне «неположенной», неправільнай літаратуры.

І так надзвычайна-незвычайны сход-суд адбыўся. Апальныя студэнты мусілі невядома за што каяцца. Праўда, на першы раз абышлося без пакарання невінаватых. Адно, прыстрашыўшы студэнцкую аўдыторыю, дзе кагось здолелі завербаваць. Так вось, за гэтым маладым, неразважным народам прыглядай ды прыглядай.

Праз два-тры гады куды трэба паступіў сігнал, што ў БДУ зноў непарадак. Тры студэнты-філолагі на чале з Алесем Разанавым збіраюць подпісы пад зваротам у Міністэрства асветы, каб на беларускім аддзяленні філалагічнага факультэта лекцыі па ўсіх прадметах чыталіся па-беларуску. Гэта ўжо выглядала на пачатак бунту, і ініцыятары акцыі, два маладыя паэты Алесь Разанаў і Віктар Ярац ды іх сябра Лявон Барташ, былі неадкладна пакараныя — звольненыя з універсітэта.

За бунтаўнікоў, аднак, заступіўся Максім Танк. Выйшаў на вышэйшае партыйнае кіраўніцтва асветай, і выключаным з БДУ дазволілі давучыцца, атрымаць вышэйшую адукацыю ў вучэльнях на правінцыі, у Брэсце і Гомелі. Маці ж Алеся Разанава ў скрушны для яе час Максім Танк напісаў ліст, запэўніўшы ўстрывожаную, што яна «яшчэ будзе ганарыцца сваім сынам». Сёння высокаталенавітым паэтам і перакладчыкам Алесем Разанавым можа па праву ганарыцца і, пэўна, ганарыцца сама маці-Беларусь.

***

Легкаважыў я тыя выклікі на так званае «собеседование» ў КДБ. Каб сустрэцца з тымі, каго выклікалі і канкрэтна даведацца, пра што пыталіся, не прыйшло ў галаву. А факты, каб задумацца, што ўсё гэта невыпадкова і не для праформы рабілася дзяржбяспекай, былі. Аднойчы Сцяпан Міско расказаў, што да яго пад выглядам украінскіх навукоўцаў з'явілася трое мужчын. Сабраўся быў нават пачаставаць іх. Як жа, з дарогі?

Але насцярожыла, як сябе паводзілі нечаканыя госці. Адразу засцерагліся, што ніякіх украінскіх навін культурніцкага плана не ведаюць, бо фізікі па прафесіі. Адзін трохі гаварыў па-ўкраінску, а два яго калегі часам устаўлялі адно, другое слова. Нагоду свайго наведвання візіцёры не патлумачылі. Мямлілі штось невыразнае: ат, вось па дарозе было, маўляў. Сцяпан Міхайлавіч — чалавек добры, але часам рэзкі, не стаў цырымоніцца. Недвухсэнсоўна даў зразумець няпрошаным гасцям, з якога яны ведамства, і выставіў за дзверы акадэмічнай маласямейкі. Прыкідвалі таварышы кадэбісты, як знайсці, выявіць у беларускіх навукоўцаў так званы ўкраінскі след для рэалізацыі свайго плана «Х».

Працяг будзе

